# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №27 (148) 18 КАСТРЫЧНІКА 1999г.


## 40 тысячаў выйшлі на Марш Свабоды

## Крывавыя сутыкненьні на мосьце церазь Сьвіслач

## Вінцук Вячорка: на Дзяды нас будзе болей

## У Стоўпцах прадпрымальнік спаліў сябе

Жудасная гісторыя скаланула Стоўпцы. Прыватны прадпрымальнік, гаспадар невялікай фірмы таксаперавозак, абліўся бэнзынам і спаліў сябе на ганку райвыканкаму. Уладзімер Саковіч пайшоў на гэта пасьля таго, як уціск раённых уладаў давёў яго да торбы. Апошнія тыдні яго ўвесь час выклікалі ў райвыканкам і падатковую інспэкцыю. Сп.Саковіча пазбавілі ліцэнзіі, то бок магчымасьці зарабляць грошы, у яго сканфіскавалі ўсе пяць аўтамабіляў, якія Саковіч набыў, пазычыўшы грошы для заснаваньня сваёй таксафірмы. Прадпрымальнік быў у роспачы, ён лічыў санкцыі незаконнымі.

Роўна а сёмай раніцы ў чацьвер Уладзімер прыйшоў на ганак выканкаму і на месцы пачаў нясьпешна паліваць сябе бэнзынам, пасьля чаго цвыркнуў запальнічкай. Людзі на плошчы кінуліся выклікаць хуткую дапамогу ды міліцыю. Саковіч жа, як жывая паходня, кінуўся да дзьвераў будынку, нібы шукаючы паратунку ўсярэдзіне, а знутры на яго пазіраў вартаўнік, але так і не адамкнуў дзьвераў.

Пакуль прыехалі дактары, Саковіч упаў і дагарэў. Адразу ж адтуль яго адвезьлі ў морг.

У райвыканкаме цяпер шукаюць сабе апраўданьняў: кажуць, што ў Саковіча з галавою было ня ўсё добра, згадваюць таксама, што ён пару гадоў таму разьвёўся з жонкай. Але Саковіч ніколі не лячыўся ад галавы і не стаяў на ўліку.

Гэтак у нас: людзей пазбавілі будучыні, робяць нявольнікамі-жабракамі, і вінаватых няма.

Пракуратура Стаўпецкага раёну па факце здарэньня ўзбудзіла крымінальную справу па артыкуле «давядзеньне да самагубства». Гэтак бы яшчэ ў маштабе краіны знайшоўся пракурор...

*Аляксей Шыдлоўскі*



Сутычка на рагу Фрунзэ і Першамайскай

Фота Уладзімера Шлапака

# Марш да Незалежнасьці

Акцыя пачалася з таго, што на плошчы Якуба Коласа амонаўцы адабралі ў людзей... чорнага казла. На ім было напісана «лукашэнка», і яго меркавалі весьці наперадзе калёны. Безь пяці дванаццаць на пляцы стаяла ня больш за тысячу чалавек. Арганізатары вырашылі пачакаць яшчэ гадзіну і не памыліліся. У пятнаццаць хвілінаў на другую па праспэкце Скарыны ў бок Акадэміі Навук рушыла ўжо ня менш за 15 тысячаў чалавек, а ўжо пад Акадэмію Навук іх стала больш за 20 тысячаў — усе пабачылі, што шэсьце не разганяюць. Калёна ішла праспэктам да вуліцы Сурганава і далей, да парку імя «Дружбы народаў», што ў раёне плошчы Бангалор. Людзі ўвесь час далучаліся, асабліва шмат чакала шэсьце на самой плошчы, і ў кароткім мітынгу ўзяло ўдзел ужо больш за 30 тысячаў людзей.

Выступоўцы акцэнтавалі ўвагу на тым, што мітынг — канец толькі першае часткі «Маршу Свабоды». Вінцук Вячорка, стоячы на трыбуне, спаліў праект «саюзнае дамовы». На мітынгу прынялі рэзалюцыю, у якой запатрабавалі свабодных выбараў, вызваленьня палітвязьняў і усталяваньня дэмакратыі.

Сюрпрызам для ўдзельнікаў мітынгу сталі разгорнутыя велізарныя 25-мэтровыя сьцягі. Адзін бел-чырвона-белы, а другі — сіні з залатымі зоркамі, Эўрапейскага зьвязу. Людзі пранесьлі іх на руках праз увесь горад. Бо з парку Бангалор людзі вуліцамі Багдановіча й Варвашэні скіраваліся ў цэнтар. Менавіта тут колькасьць людзей дасягнула свайго піку. Людзі зьвярнулі да плошчы Перамогі, але праспэкт апынуўся перагароджаны міліцэйскімі машынамі. Тады арганізатары павялі натоўп вуліцамі Казлова і Зьмітрака Бядулі.

На Зьмітрака Бядулі й адбылася самая буйная правакацыя дня: нехта кінуў у пад'езд, дзе месьціцца 34 паштовае аддзяленьне, пэтарду, і пошта загарэлася. Мужчыны з калёны кінуліся ў агонь і загасілі яго, хаця самі атрымалі апёкі.

*Працяг і камэнтары на старонцы 3.*

Славамір АДАМОВІЧ

***СЯМНАЦЦАТЫ ДЗЕНЬ КАСТРЫЧНІКА 1999 ГОДУ***

Сямнаццатага кастрычніка
ніякае нам ня сьвята,
проста мы супраць апрычнікаў,
тым болей, мы супраць ката.

Хай дзень гэты будзе халодны —
мы выйдзем з гарачымі сэрцамі,
мы рушым за Край наш родны
на штурм рэжымных фартэцый.

Як россып чырвоных яблыкаў
па белай крывіцкай гліне,
мы рынем з прадмесьцяў і фабрык
на зьвязы трамвайных ліній.

Пад барабанныя пошчакі,
пад воклічы цэнтурыёнаў
мы зоймем турмы і плошчы
з патронамі ці без патронаў!

*12 кастрычніка 1999 году*

# Ні жывая ні мёртвая
## наша сельская гаспадарка



Фота Анатоля Клешчука

Наяўны даляр перакрочыў мяжу 600 тысячаў беларускіх рублёў, а безнаяўны — 700 тысячаў. У кватэрах пакуль халадна, і ўлады перагледзелі санітарныя нормы, зьнізіўшы дапушчальны мінімум тэмпэратуры з 18 да 12 градусаў цяпла. Мазуты на зіму назапасілі толькі 51% ад нормы. Тарыфы на электраэнэргію ўжо падскочылі ў некалькі разоў, тое самае чакаецца з аплатаю за кватэры. Пераважная большасьць беларусаў ужо добра забылася смак добрае булкі, сьпелага сыру, сапраўднае кілбасы. Пракрокі праракуюць нам зіму, якая канчаткова падарве сельскую гаспадарку: у краіне сабралі толькі 3,3 мільёны тонаў збожжа, а травянога корму назапасілі меней, чым летась, калі яго ўжо адчайна не ставала на добрую зімоўку. Перамовы з МВФ фактычна праваленыя. Нават у найлепшым выпадку, калі б цяпер урад выканаў умовы міжнародных фінансавых арганізацыяў, рашэньня пра выдзяленьне крэдыту давялося б чакаць 6-8 месяцаў, але ўрад пакуль і ня думае мяняць стратэгію разьвіцьця краіны, без чаго ніхто на Захадзе рызыкаваць грашыма ня стане.

*Працяг тэмы нумару на старонцы 6.*



**У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:**

**Апісаньне жыцьця й зьнішчэньня бажніцы Апекі Маці Божае ў Воршы.** Разбуралі яе 30 гадоў таму, у 1969 годзе.

*Пра гэтую трагедыю піша мастак Мікола Купава.*

# Марш да незалежнасьці



Фота Уладзімера Шлапака

На праспэкце Скарыны

*Працяг са старонкі 1.*

Цікава, што літаральна за пару сэкундаў да загараньня нашы карэспандэнты зьвярнулі ўвагу на двух міліцыянтаў, што стаялі на вахце ля гэтых дзьвераў, хаця болей у калёне міліцыянтаў на гэты момант ужо не заставалася.

Наступны кардон амонаўцаў прычакаў шэсьце на рагу Фрунзэ і Першамайскай. Амонаўцаў было толькі пара дзясяткаў. Іх зьмялі і зьбілі. Шлёмы ж павыкідалі за плот холадакамбінату. Адзін з амонаўцаў, якому ў кароткай сутычцы разьбілі галаву, страціў прытомнасьць, і яму дэманстранты аказалі першую дапамогу, пасьля чаго яго на руках зьнесьлі калегі.

Дэманстранты былі настроеныя вельмі рашуча. Працізаконныя дзеяньні ўладаў, якія перашкаджалі шэсьцю, выклікалі абурэньне. Усе надзвычай хацелі дайсьці ўсё ж да плошчы Незалежнасьці. Вуліца Першамайская на схіле была перакрытая пустымі УАЗікамі, але людзі не пераварочвалі іх: усё ж паводзіны іх былі асэнсаванымі й ня жорсткімі.

Людзей спыніў толькі трайны кардон АМОНу пры мосьце церазь Сьвіслач на Першамайскай. Арганізатары хацелі павярнуць маршоўцаў назад, каб не дапусьціць праліцьця крыві, ды дзе там! Старыя й жанчыны засталіся назіраць за разьвязкаю «Маршу...» на схіле. Другая палова натоўпу ўшчыльную падыйшла да мэталічных шчытоў АМОНу. Пасьля 15-хвілінных перамоваў з амонаўцамі Мікола Статкевіч заклікаў дэманстрантаў вярнуцца на плошчу Якуба Коласа. Дэманстранты сталі паўзьці назад. Але тут міліцыянты заатакавалі дэманстрантаў ззаду, схапіўшы пару чалавек і зьбіваючы іх дубінкамі. У адказ маніфэстанты кінуліся вызваляць схопленых: побач з мостам вядзецца будоўля, цагліны зь якое паляцелі ў амонаўцаў, гулка грукаючы аб мэталёвыя шчыты. Грукат гэты быў настолькі моцны, што яго было чуваць на самай плошчы Перамогі. Ляцеў сапраўдны «каменны град»... АМОН захінаўся шчытамі й раз-пораз рабіў вылазкі. Асабліва не пашанцавала тым зь міліцыянтаў, што ў вернападданскім запале адарваліся ад сваіх і, перасьледуючы маніфэстантаў, трапілі да іх... у палон: пара — каля ўваходу ў парк Горкага, пяць — на Пуліхава. Дэманстранты, адбіўшы атакі, спрабавалі разагнаць у бок шыхтоў АМОНу трамвай, ды той не паддаўся. У адказ міліцыянты кінулі ў бок дэманстрантаў сьлезацечныя шашкі, але паўночны вецер панёс дым назад на іх.

Пасьля 15-хвіліннага супрацьстаяньня ўлады кінулі на змучаных днём паходу дэманстрантаў спэцназ.

Пачалося паляваньне на людзей. Людзі траплялі ў засады ў парку Горкага альбо ў дварах. Міліцыянты абкружалі двары групамі па паўсотні чалавек і вылоўлівалі патэнцыйных дэманстрантаў, урываючыся і ў пад'езды. Сотні людзей шукалі схову ў гастраноме, што на пачатку вуліцы Пуліхава, але й туды ўварваліся спэцназаўцы...

Каля дзясятку міліцыянтаў і некалькі дзясяткаў дэманстрантаў пацярпелі, прычым прынамсі 7 чалавек трапілі ў «хуткую дапамогу» ў цяжкім стане. Затрымана ня менш за 80 чалавек: у прыватнасьці, у Партызанскім РАУС сядзела 46 чалавек, у Савецкім — ня менш за 30. Спэцслужбы высадзілі дзьверы кватэры Статкевіча і арыштавалі яго. Дэпутатку Гразнову міліцыянты арыштавалі на кватэры. Затрыманая і дэпутатка расейскай Дзярждумы ад сацыял-дэмакратаў Беклямішава. Лідэры Фронту хаваюцца. Ва Ўправу Фронту спрабавалі трапіць міліцыянты, але іх не пусьцілі. Зьбіты й затрыманы дырэктар Беларускага калегіюму Алесь Анціпенка. За некаторымі людзьмі сачылі: гэтак, супрацоўніка газэты «Навінкі» Міколу Салаўя схапілі ўжо каля ўнівэрмагу «Беларусь» і моцна зьбілі (ён усё шэсьце ішоў у белым халаце санітара, прадаючы сваё выданьне).

Лідэры апазыцыі ўсклалі ўсю правіну за сутычкі на Менгарвыканкам, які нематываванна адмовіў у дазволе на дэманстрацыю.

**Аляксей Шыдлоўскі**

## НАВОШТА ПРАСІЦЬ?

***Арганізатары акцыі пад час Маршу далі нашаму карэспандэнту адказ на два пытаньні: чаму вы прасілі дазволу на правядзеньне Маршу ва ўлады, якую лічыце нелегітымнай і калі можна чакаць правядзеньня наступных акцыяў.***

**Зьміцер Бандарэнка:** «Каб не было ахвяраў, то бок, мы дзейнічаем такім самым чынам, як некалі палякі. Ня трэба лішніх ахвяраў там, дзе іх можна пазьбегнуць. Калі б мы не папрасілі дазволу, было б значна менш людзей».

**Мікола Статкевіч:** «Па-першае, я асабіста нічога ні ў кога не прасіў. А па-другое, мы лічым, што трэба даць уладам магчымасьць перакрыць рух грамадзкага транспарту, каб забясьпечыць бясьпеку ўдзельнікаў».

**Вінцук Вячорка:** «Фармальна гарадзкія ўлады былі прызначаныя тады, калі рэжым яшчэ быў легітымным, і Лукашэнка быў яшчэ легітымным».

**Анатоль Лябедзька:** «Мы не павінны быць авантурыстамі і проста паддаваць небясьпецы тысячы людзей, што сёньня выйшлі на вуліцы. Мы зрабілі ўсё магчыльвае, каб гарадзкія ўлады вырашылі гэтае пытаньне станоўча».

**Алесь Бяляцкі:** «Дэ-факта кіраваньне горадам зараз знаходзіцца ў руках сёньняшняга выканкаму, і дэ-факта мы маем такую неабходнасьць мець справу зь імі, бо мы хочам, каб такія акцыі праходзілі ўсё ж такі мірна, без эскаляцыі, без напружаньня. Дэ-факта мы вымушаны з гэтым лічыцца».

**В.Вячорка:** «Дзяды 31 кастрычніка і акцыя пратэсту ў дзень падпісаньня Саюзнае дамовы, афіцыйна — 25 лістапада».

**А.Лябедзька:** «У абставінах псыхалягічнага ўціску вельмі складана людзей разгайдаць. І тыя, хто сёньня выйшаў, яны сыдуць адсюль пераможцамі. Мы ўжо рыхтуемся да акцыі 24 лістапада, у чарговую гадавіну дзяржаўнага перавароту. І традыцыйнае — Дзяды».

**Апытваў Антон Уцюговіч**

## Фатальнае рашэньне гарвыканкаму

***Менгарвынкам дазволіў хадзіць «Маршам Свабоды» толькі па пляцы Бангалор. Гэтае абразьлівае рашэньне справакавала жорсткую рэакцыю дэманстрантаў.***

Заяўнікі акцыя прасілі, каб 17 кастрычніка маніфэстантам дазволілі сабрацца на пляцы Якуба Коласа і адтуль шэсьцем накіравацца на пляц Незалежнасьці. Паседжаньне Менгарвыканкаму вёў старшыня Ул.Ярмошын. З боку заяўнікаў прысутнічалі В.Вячорка (БНФ), А.Януkевіч («Малады Фронт»), З.Бандарэнка («Хартыя '97»), А.Лябедзька (АГП), В.Шчукін (дэпутат Вярхоўнага Савету), В.Івашкевіч (рэдактар газэты «Рабочы») ды іншыя. Ярмошын матываваў зьмену месца акцыі тым, што 16—17 кастрычніка на праспэкце Машэрава будзе кірмаш, і міліцыя ня здолее забясьпечыць парадак у цэнтры.

Чаму ўлады сьвядома пайшлі на абвастрэньне сытуацыі? Прадстаўнік «Хартыі '97» Зьміцер Бандарэнка мяркуе: «Гэтыя людзі — марыянэткі. Іх ніхто не выбіраў, яны не нясуць ніякае адказнасьці перад народам. І пасьля страты легітымнасьці прэзыдэнтам Лукашэнкам 21 ліпеня яны таксама абсалютна нелегітымныя на сёньняшні момант, але зьяўляюцца групай, якая мае сілу. Было бачна, што людзі парушаюць закон, бо паводле беларускага заканадаўства Менгарвыканкам мае права зьмяніць час і месца правядзеньня акцыі, але ня тып мерапрыемства. А заяўка была пададзеная на дэманстрацыю. У Канстытуцыі Беларусі гарантуецца свабода шэсьцяў і дэманстрацыяў. Таму чыноўнікі груба парушылі заканадаўства».

Нягледзячы на забарону гарвыканкаму, апазыцыянэры сабралі народ а 12-й гадзіне на пляцы Якуба Коласа.

Напярэдадні Маршу ўражвала сапраўдная паніка ўладаў. Зачынялі незалежныя газэты, вуліцы перакопвалі: каля Бангалору вуліцу Кульман, зачынілі мост на вуліцы Янкі Купалы, абвясьцілі кірмашы, на суботу-нядзелю зрабілі бясплатным наведваньне кіно і паркаў. Не дапамагло. Стаўленьне людзей на вуліцах да дэманстрантаў у гэты раз было надзвычай прыязным.

**Зьміцер Сваткоўскі**

## Звароты не дайшлі

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і ягоны старшыня Сямён Шарэцкі, які цяпер у Вільні, не застаюцца ў баку ад нядзельных падзеяў. Да «Маршу Свабоды» Прэзыдыюм ВС падрыхтаваў і выдаў 16 верасьня зварот да грамадзянаў Беларусі й спэцыяльны зварот да праваахоўных органаў. Аднак наклад гэтых дакумэнтаў так і не патрапіў у Менск, а спроба перавезьці паперы празь мяжу скончылася нічым. Пры тым затрымалі перавозчыка.

**Г.К.**

# 1996—1999

***«Марш Свабоды» сваёй масавасьцю нагадваў акцыі вясны 1996 году. Учора ў розныя моманты шэсьця колькасьць удзельнікаў вагалася ад 20 да 40 тысячаў чалавек. Гэта, зразумела, ня 100, але... Нас было шмат. Як тады, у 1996-м. Але мы ўжо былі іншымі. Што ж зьмянілася з тае пары? Чым «Марш Свабоды» розьніцца ад тых мітынгаў? Чаго чакалі беларусы ад гэтае акцыі? Свае думкі на гэты конт выказвалі ўдзельнікі «Маршу».***

**Аляксандар Таболіч, музыка:**
Ну, па-першае, акцыя адрозьніваецца ад папярэдніх ужо тым, што ўсе апазыцыйныя партыі Беларусі аб'ядналіся і стварылі нармалёвую незалежніцкую канцэпцыю. Гэта першая спроба яднаньня дэмакратычных сілаў. Атрымаецца з гэтага што ці не — пабачым з наступных мітынгаў.

**Алег Дашкевіч, журналіст:**
У 95—96 годзе людзі былі больш радыкальна настроеныя. Гэта было бачна ў тэлевізійных сюжэтах, гэта адчувалася ў паветры.

**Аляксей Шэін, кіраўнік прэсслужбы цэнтру «Супольнасьць»:**
У 95—96 упершыню паўстала пытаньне пра страту незалежнасьці. За наступныя гады ўсе пасьпелі звыкнуцца з гэтай думкай. А цяпер рэальная пагроза зьявілася ізноў, і людзі прыйшлі з новым запалам, з новай энэргіяй паказаць самім сабе і ўсяму сьвету — і Расеі таксама — што ня так і лёгка будзе акупаваць Беларусь, што шмат людзей жадаюць бачыць яе незалежнай.

**Васіль Сёмуха, перакладчык:**
Адрозьніваецца тым, што я тут бачу ўсё новых і новых людзей — сваіх старых знаёмых амаль не сустракаю. Гэта значыць, што рух шырыцца, усё больш людзей пачынаюць разумець нашыя мэты й задачы. І менавіта гэтага — пашырэньня руху — я чакаю ад кожнага мітынгу.

**Лявон Баршчэўскі, намесьнік старшыні БНФ:**
Я думаю, што гэта акцыя пераадоленьня страху. Напрыклад, у 95—96 гадах людзі хадзілі на мітынгі і не баяліся, бо ўжо звыклі, што нейкая дэмакратыя ў краіне ёсьць. А сёньня яны мусяць пераступіць цераз псыхалягічны бар'ер, цераз тую апрацоўку, якая праводзіцца.

**Слава Корань, саліст рок-гурту «Уліс»:**
За гэтыя гады людзі лепш зразумелі, хто ў нас каля ўлады, зразумелі, што так проста свабоду мы не атрымаем.

**Уладзімер Арлоў, пісьменьнік:**
Мне заўсёды былі блізкія словы выдатнага гісторыка і пісьменьніка сучаснасьці Арнольда Тойнбі пра тое, што развіцьцё цывілізацыі адбываецца празь няспынны дыялёг чалавецтва, ці асобных нацыяў, зь Лёгасам, альбо Богам, вышэйшай сілай, якая быццам пасылае нацыі выклік і чакае адказу — раз, другі, трэці... Але аднойчы надыходзіць той момант, калі выклік, застаўшыся без адказу, можа пазначаць гістарычны скон нацыі. Беларусь падышла да гэтае мяжы. Я прыйшоў сюды сёньня, як каждаму на ўсе акцыі апазыцыі, не таму, што веру ў іх імгненны посьпех, а каб адчуць прысутнасьць тае пасіянарнае творчае энергіі, якая, паводле таго ж Арнольда Тойнбі, здольная зьмяніць сытуацыю ў лепшы бок.

**Андрэй Мельнікаў, бард:**
Можа, людзі больш цьвярозыя прыйшлі... Чаго чакаю? Нейкія новыя знаёмствы зьявяцца, старыя ўмацуюцца.

**Сяржук Сахараў, рок-мэнэджэр:**
У нашай няшчаснай, прыгнечанай, акупаванай Беларусі знайшлося столькі людзей, здольных абараніць яе незалежнасьць. Мы чакаем ад гэтага толькі аднаго — рэвалюцыі. Ура!

**Апытваў Андрэй Скурко**



## ГАНДБОЛ. ЛІГА ЧЭМПІЁНАЎ

*«Прата» (Італія) – СКА (Менск) – 21:19.*

*Першая сустрэча — 21:23.*

Нашыя трывогі і хваляваньні адносна магчымасьці выхаду менскага СКА ў групавы турнір Лігі Чэмпіёнаў, на вялікі жаль, спраўдзіліся. Прычым больш зьдзекліва варыянт перамогі італьянскага чэмпіёна па суме дзьвюх сустрэчаў цяжка было сабе ўявіць: «Прата» прайшоў далей, выйграўшы з той жа розьніцай у мячах (2), што і СКА ў Менску. Прайшоў, дзякуючы толькі большай колькасьці закінутых мячоў на чужой пляцоўцы (21 супраць 19). Такім чынам, менскі СКА пазбавіў сябе і нас магчымасьці сустрэчы зь вялікім гандболам. Самае крыўднае тое, што ў выпадку перамогі СКА трапляў бы ў адну падгрупу са славенскім чэмпіёнам «Цэле», ізраільскім «Хапаэлем», польскай «Іскрай» і меў бы рэальны шанец заняць другое месца ў падгрупе ўсьлед за безумоўным фаварытам «Цэле» і выйсьці ў чвэрцьфінал.

Адзінае, што не дае канчаткова звыкнуцца з думкай пра страту беларускім гандболам месца сярод сусьветнай эліты – гэта адмова Спартака Мірановіча ўзначаліць зборную Эгіпту. Славуты спэцыяліст застаецца працаваць на Радзіме. Мізэрная, але надзея.

## БЕЛАРУСКІЯ ГІМНАСТЫ І ГІМНАСТКІ ПАКУЛЬ ШТО ЎВАХОДЗЯЦЬ У ЭЛІТУ

На пачатку кастрычніка прайшлі два сусьветныя першынствы ў самых «мэдалёвых» для Беларусі відах спорту: чэмпіянат сьвету па мастацкай гімнастыцы ў японскай Осацы і чэмпіянат сьвету па спартовай гімнастыцы ў кітайскім Цяньцзыні. Гэта апошнія спаборніцтвы такога ўзроўню сярод гімнастаў перад Алімпіядай у Сыднэі. Да таго ж, на іх разыгрываліся алімпійскія ліцэнзіі. І там, і там прадстаўнікі Беларусі выступілі больш-менш пасьпяхова. Больш – у Японіі, менш – у Кітаі.

На чэмпіянаце па мастацкай гімнастыцы нашыя дзяўчыны заваявалі 8 узнагарод (3 срэбныя і 5 бронзавых мэдалёў) і максымальную колькасьць алімпійскіх ліцэнзіяў. Цяпер, на Алімпіядзе ў Сыднэі, беларусы здолеюць выставіць дзьвюх гімнастак у асабістых спаборніцтвах і зборную каманду. Гэта посьпех.

На жаль, горшы вынік у нашых спартовых гімнастаў. Жаночая зборная заняла 12 месца ў камандных спаборніцтвах, выканаўшы тым самым толькі задачу мінімум – патрапіць на Алімпіяду. Мужчыны на чале са сваім лідэрам, адным з мацнейшых гімнастаў сьвету Іванам Іванковым, у камандных спаборніцтвах выступілі больш удала, заваяваўшы бронзавыя ўзнагароды. Маглі мы разьлічваць і на мэдалі ў індывідуальных відах, але чарговая траўма Івана Іванкова (які двойчы быў абсалютным чэмпіёнам сьвету), перакрэсьліла гэтыя надзеі.

**Андрэй Андрыеўскі**

# дзе варта быць

## Музыка

У канцэртнай залі Філармоніі 22 кастрычніка праграмай «Бацькаўшчына сьветлая мая» сваё 70-годзьдзе адзначыць Дзяржаўны акадэмічны народны аркестар Беларусі імя І.Жыновіча пад кіраўніцтвам Міхаіла Казінца. Сьпявае Ніна Кавалёва. А 28 кастрычніка на сцэне Філармоніі выступіць Народны дзявочы хор «Раніца», якім кіруе Віктар Масьленікаў.

У залі камэрнай музыкі Філармоніі 19 кастрычніка прагучаць шэдэўры вакальнай клясыкі ў выкананьні Людмілы Ларчык-Сахацкай і Настасьсі Масквіной (абедзьве — сапрана). Партыю фартэпіяна выконваюць Ігар Чарнін і Галіна Аляшкевіч. Прагучаць Бах, Гендэль, Моцарт.

## Канцэрты

23 кастрычніка зноў «засьвецяцца» антыпартыйная група «Чырвоны жонд». Разам з інфармацыйным антыфашыстоўскім бюлетэнем «Антыфашык» яна ладзіць канцэрт «Раздавім фашысцкую гадзіну» ў клюбе «4 апэльсыны» (ДК МТЗ). Удзел прымаюць гурты «Hate to State», «Сонца Мао», «Deviation», «Наизнанку» і «Бандзінскі». Пачатак а 18-й, кошт квітком — 500 тысячаў. На ўваходзе — на 100 тысячаў болей.

## Тэатар

20 кастрычніка на «Вольнай сцэне» — «Бот і яго шкарпэтка». Аўтарам гэтага фарсу-абсурду зьяўляецца Г.Ахтэнбуш. 21 кастрычніка зноў «Паваліўся нехта» — фольк-жарт У.Галубка і Л.Родзевіча. 22 кастрычніка на «Вольнай сцэне» сустрэча зь «Лекарам паняволі» Ж.-Б.Мальера. А 23 і 24 — гульні для дарослых: п'еса С.Кандрашова «Містэр Розыгрыш».

## Опэра

Такое здараецца вельмі і вельмі нячаста: у Менску гастралюе кітайская Цзылінская трупа Пэкінскай опэры. У ДК МТЗ 22 кастрычніка гучыць опэра «Гара з агнём», а 23 — фрагмэнты опэраў «Спускацца з гары», «Фэя раздае кветкі», «Чжунжуй выдае сястру замуж» і «Выбраць цудадзейную траву».

Аднак ня варта забывацца і на беларускую опэру: 19 кастрычніка там даюць «Кармэн» Ж.Бізэ. 23 — прэм'ера опэры «Барыс Гадуноў» М.Мусаргскага. 24 — музычна-тэатральная кампазыцыя ў двух аддзяленьнях «О, Моцарт, Моцарт!» Гучаць арыі і ўвэртуры з опэраў Моцарта і опэра М.Рымскага-Корсакава «Моцарт і Сальеры».

## Балет

20 кастрычніка на сцэне «Раймонда» А.Глазунова. 22 — два творы І.Стравінскага — «Жарптушка» і «Вясна сьвятарная». 24 (ранiцай) — «Бахчысарайскі фантан» А.Асаф'ева.

## Выставы

У Палацы мастацтваў да 24 кастрычніка працягваецца мастацкая акцыя Сяргея Войчанкі і Ўладзімера Цэслера «Праект стагодзьдзя. Дванаццаць з дваццатага». Працягваецца і выстава твораў Раісы Сіплевіч «Patsinka».

У галерэі Саюзу мастакоў Беларусі (пр.Скарыны 12) ідзе выстава твораў акадэміка жывапісу Віктара Альшэўскага. Апошні дзень выставы — 21 кастрычніка.



Акцыя «Праект стагодзьдзя. Дванаццаць з дваццатага».

## Дыскусіі

У аўторак 19-га а 18.30 у Беларускім Калегіюме (у залі бібліятэкі Янкі Купалы на Харужай, 16)




адбудзецца дыскусія «Мультыкультуралізм, маргінальнасьць і «вайна культураў» з нагоды выйсьця шостага нумару «Фрагмэнтаў». На дыскусіі плянуецца абмеркаваньне наступных пытаньняў. Ці беларуская культурная меншыня ёсьць абсалютна маргінальнай? Што значыць мультыкультурная палітыка ў сёньняшняй Беларусі? Якія пэрспэктывы ў беларуска-расейскага культурнага дыялёгу? У дыскусіі возьмуць удзел Валянцін Акудовіч, Алесь Анціпенка, Ігар Бабкоў, Сяргей Санько, Ірына Шаўлякова ды іншыя. Адбудзецца таксама прэзэнтацыя абноўленых «Фрагмэнтаў».

## Кіно

У суботу 23 кастрычніка а палове на пятую ў клюбе на сядзібе ТБМ (Румянцава 13) паказваюць мультыплікацыйны фільм «Аліса ў краіне цудаў» (ЗША), а аб 18-ай гадзіне — «Сьлёзы блуднага сына» (Беларусь, у гал. ролі — Віктар Шалкевіч). Уваход вольны.

У той жа дзень у кінатэатры «Масква» будуць паказваць зборрэклямных ролікаў з калекцыі Жан-Мары Бурсіко «Ноч пажыральнікаў рэклямы».

**Алесь Кудрыцкі**

# гаспадарчая кроніка

***Праект дамовы аб утварэньні беларуска-расейскае дзяржавы ня ўтрымлівае палажэньня пра роўныя эканамічныя ўмовы для суб'ектаў гаспадараньня дзьвюх краінаў.***

Адсутнасьць такой згадкі выклікае неўразуменьне. Паводле агучанага варыянту дамовы, мэтаю эканамічнай інтэграцыі Беларусі й Расеі ў межах хаўрусная дзяржавы будзе стварэньне адзінай эканамічнай прасторы. Выглядае, што эканамічная частка дакумэнту стваралася пад дыктоўку расейскага боку. Разуменьне Лукашэнкавага боку заключаецца ў тым, каб атрымліваць з Расеі танныя энэрганосьбіты, а таксама каб карыстацца на расейскай тэрыторыі таннымі транспартнымі паслугамі. Уся астатняя эканамічная палітыка можа й не супадаць з расейскаю. Летась Аляксандру Лукашэнку такое разуменьне эканамічнай інтэграцыі ўдалося замацаваць на высокім узроўні. Але магільшчыкам гэтых плянаў выступіў Ул.Пуцін. 8 верасьня ў Менску расейскі прэм'ер адмовіўся падпісваць праект дамоўленасьцяў у гэтым пытаньні.

У канцы мінулага году Лукашэнка абяцаў, што 2000 год Беларусь і Расея сустрэнуць з адзіным рублём. А Кебіч абяцаў тое ж самае яшчэ ў 1994 годзе. Дасьць Бог, вынік будзе аднолькавы.

***Нядаўна ўрад прыняў пастанову ў разьвіцьцё дэкрэту Лукашэнкі аб працоўнай дысцыпліне. Паказальна, што ўрадавая пастанова ўступае ў дзеяньне на два месяцы раней, чым дэкрэт.***

Пастанова аб працоўнай дысцыпліне і палажэньне аб кантракце былі падпісаныя С.Лінгам пры канцы верасьня, але зарэгістраваныя як дзяржаўныя дакументы толькі на мінулым тыдні. Ні ў ўрадавай пастанове, ні ў палажэньні аб кантракце не рэглямэнтуецца, што рабіць работніку, каб абараніць сваё права працаваць згодна з кваліфікацыяй. У тэксьце ўрадавых дакумэнтаў наймальніку фактычна не забараняецца пагаршэньне ўмоваў працы работніка пры заключэньні кантракту. Згодна з Кодэксам законаў аб працы, пагаршэньне ўмоваў магчымае, але ж кодэкс абараняе работніка ад зьніжэньня кваліфікацыі. Урадавая пастанова не прадугледжвае, што пры пераходзе на кантракт кваліфікацыя супрацоўніка павінна быць захаваная.

***Пры канцы мінулага тыдня на нарадзе ў Савеце міністраў Лукашэнка забараніў бугальтэрыям дзяржаўных прадпрыемстваў спаганяць унёскі прафсаюзных зьвязаў.***

Ён заявіў: «Спыніць усе зборы на вытворчасьці праз бугальтэрыі. Прафсаюзныя зьвязы пракручваюць грошы ў сваіх банках, а потым фінансуюць свае зборышчы за кошт рабочых, якія нічога ня ведаюць». Старшыня Фэдэрацыі прафзьвязаў Уладзімер Ганчарык адразу ж адрэагаваў, сказаўшы, што яно прывядзе да зьмяншэньня й зараз невысокага ўзроўню сацыяльнай абароны працоўных і выкліча рэзкую палітызацыю прафсаюзных зьвязаў. Але высьвятлілася, што рэагаваць пакуль нібыта няма на што. Нягледзячы на ўсе высілкі супрацоўнікаў прафзьвязаў, яны ня здолелі атрымаць нарматыўны акт, у якім былі б замацаваныя пагрозы Лукашэнкі. Ня выключана, што пагрозы, якія прагучалі, былі проста пробным шарам.

Лідэр Свабодных прафзьвязаў Генадзь Быкаў бачыць у гэтым пэўны пазытыўны момант. Ён заявіў, што калі з 4,5 мільёнаў сяброў ФПБ застанецца паўмільёна, якія самі будуць плаціць унёскі — гэта будзе вялікая перамога дэмакратыі. Лідэр Свабодных прафзьвязаў прагнозуе, што функцыянэры пачнуць сыходзіць у прэзыдэнцкія структуры, а рабочыя — вылучаць з шэрагаў моцных сапраўдных лідэраў.

***Яшчэ адну ступень свабоды страціў прадпрымальніцкі сэктар Беларусі. З 12 кастрычніка ў краіне дэкрэтам Лукашэнкі ўведзенае дзяржаўнае рэгуляваньне заробкаў прадпрымальнікаў.***

Як вынікае са зьместу згаданага дэкрэту, ініцыятыва Лукашэнкі абумоўленая клопатам пра заробкі працаўнікоў недзяржаўнай сфэры нацыянальнае эканомікі. Цяпер камэрцыйныя арганізацыі ды індывідуальныя прадпрымальнікі пры аплаце працы мусяць кіравацца рэспубліканскай сеткай тарыфаў.

***Аляксандар Лукашэнка ўсклаў на айчынныя суб'екты гаспадараньня дадатковую фінансавую ношу ў выглядзе павелічэньня абавязковага продажу валютнае выручкі.***

Новым указам Лукашэнка павялічыў на 10% аб'ёмы валютнае выручкі, якую суб'екты гаспадараньня мусяць прадаваць на Беларускай валютна-фондавай біржы. Дагэтуль прадпрыемствы краіны, паводле ўказу двухгадовае даўніны, рэалізоўвалі 30% валюты. На мінулым тыдні на гэтай біржы прадпрыемствы мусілі прадаваць дзяржаве валюту па курсе 295 тысячаў беларускіх рублёў за даляр. Гэта пры тым, што рынкавая вартасьць безнаяўнага даляру знаходзіцца на ўзроўні 700 тысячаў.

Рашэньне Лукашэнкі прынятае ў пэрыяд абвастрэньня эканамічнага становішча на большыні прадпрыемстваў, што маюць валюту. З другога боку, такое рашэньне сьведчыць пра вострую пагрозу энэргетычнага крызысу. Бо, паводле згаданага ўказу, набытыя зараз у прадпрыемстваў валютныя рэсурсы будуць скіраваныя выключна на набыцьцё нафты.

***14 кастрычніка прадпрымальнікі Горадні правялі папярэджальную акцыю — большыня тых, хто гандлюе на рэчавым кірмашы «Паўднёвы» й Цэнтральным кірмашы, на адзін дзень спынілі гандаль. Сваіх гарадзенскіх калегаў падтрымалі пінчукі.***

У Горадні, ідэйным цэнтры Свабоднага прафсаюзу прадпрымальнікаў, не працавалі 80% рынку. Кіраўнік афіцыйнага прафсаюзу «Садружнасьць» Алег Бортнікаў скептычны: «Мы хацелі б засьцерагчы прадпрымальнікаў краіны ад выкананьня тых лёзунгаў, якія выказваюць апошнім часам прадстаўнікі некаторых апазыцыйных колаў. Тым самым яны правакуюць улады на нэгатыўнае стаўленьне да прадпрымальніцтва ўвогуле».

Ідэйны апанэнт Бортнікава Валеры Леванеўскі з СПП наступным чынам тлумачыць свае патрабаваньні: «Улады на рэальныя перамовы фактычна не пайшлі. Так званыя саступкі нас не задавальняюць і не здымаюць вастрыні праблемы».

**Агляд падрыхтаваў Зьміцер Снапкоўскі**

# ЧАЧЭНІЯ ЗМАГАЕЦЦА



Фота REUTERS

Расейскія войскі вядуць цяжкі бой з чачэнскімі атрадамі ўвечары 17 кастрычніка каля сяла Бамут.

**Расейская авіяцыя працягвае бамбіць Чачэнію, тымчасам колькасьць уцекачоў дасягнула 170 тысячаў чалавек.**

Аднак, вайна ідзе ня толькі з выкарыстаньнем гарматаў і бамбавікоў. Сапраўды вялікія маштабы набывае інфармацыйнае супрацьстаяньне. Масква зразумела, што галоўнай памылкай, якую яна зрабіла ў мінулай вайне, была параза ў інфармацыйным процістаяньні. Сёньня гэтая вайна са старонак газэтаў, тэлеэкранаў ды радыёхваляў перакінулася і ўва ўэб-прастору.

На замінулым тыдні афіцыйныя прадстаўнікі Расеі адмаўлялі факт атакі фэдэральнай вайсковай авіяцыі на аўтобус з чачэнскімі ўцекачамі; аднак яшчэ перад тым, як гэта прагучала ў цэнтральнай расейскай тэлевізіі, чачэнцы выставілі на адным з ўэб-сайтаў фотаздымкі трагедыі. Гэта прымусіла разважаць аб мэтадах, якія Масква ўжывае пад час цяперашняй кампаніі, а таксама прымусіла расейскага прэм'ера Пуціна засяродзіць увагу на ролі Інтэрнэту пад час канфлікту.

Пачынаючы з моманту распаду Савецкага Саюзу ў 1991, чачэнцы трымалі ініцыятыву ў выкарыстаньні Інтэрнэту як спосабу прарыву інфармацыйнай блякады, якую стварылі расейскія ўлады пад час канфлікту. На мінулых тыднях расейскі ўрад нанёс удар у адказ. Ён паспрабаваў зачыніць найбольш істотны з чачэнскіх ўэб-сайтаў — www.kavkaz.org — і нават шукаў у гэтай справе падтрымкі заходніх урадаў. Але пры ўсіх захадах гэты сайт не працаваў усяго пару дзён.

Калі Масква зьнішчае адзін чачэнскі сайт, дык на працягу гадзінаў, калі не хвілінаў, узьнікае іншы. Калі гакер, які спачувае афіцыйнай пазыцыі Масквы, атакуе чачэнскую ўэб-старонку, можна чакаць, што чачэнцы ў адказ зьнішчаць нейкую расейскую. І сапраўды, існуе меркаваньне, што менавіта чачэнцы альбо тыя, хто ім спачувае, сьцёрлі пэрсанальны ўэб-сайт маскоўскага мэра Юр'я Лужкова ў адказ на ягоныя заявы супраць Чачэніі і намаганьні выштурхнуць чачэнцаў з расейскага бізнэсу.

Гэткім чынам, Інтэрнэт і кібэрпрастора пераўтвараюцца ў своеасаблівы «другі фронт» змаганьня ў сучаснай вайне, але такі фронт, на якім ніводны бок ня ў стане атрымаць канчатковую перамогу.

Гэтая новая віртуальная прастора стварае іншую рэальнасьць, у якой тыя, хто спрабуе рэгуляваць плыні навінаў, пацерпяць болей, чым тыя, хто вызнае прынцып свабоды інфармацыі. А перамога апошніх у кібэрпрасторы, магчыма,ператворыцца і ў іншыя перамогі.

Прэзыдэнт Чачэніі Аслан Масхадаў не адзін раз заклікаў Маскву да перамоваў, выступаў з рознымі мірнымі ініцыятывамі і абяцаў узмацніць барацьбу са злачынасьцю. Аднак Масква, нягледзячы на просьбы Захаду, не пайшла на дыялёг з Грозным. Канцылярыя прэзыдэнта Ельцына адрэзала тэлефанічную сувязь з офісам Масхадава. Масква адкінула таксама прапановы пасярэдніцтва з боку Грузіі, Азэрбайджану і Эўразьвязу.

Не зважаючы на самаўпэўненыя заявы Масквы, на самой справе бачна, што выканаць пастаўленыя перад расейскімі сіламі задачы будзе надзвычай цяжка. Паводле амэрыканскае газэты *The New York Times*, жорсткія баі за вёску Чарвлёная паказваюць, што расейскія сілы могуць сутыкнуцца яшчэ з больш заўзятым супраціўам, чым у 94-м годзе. Тады яны падышлі на адлегласьць 15 кілямэтраў ад Грознага амаль бяз бою, а цяпер чачэнцы абаранялі амаль кожную вёску на поўнач ад ракі Церак.

Міністар дзяржаўнае бясьпекі Чачэніі Атгерыеў заявіў, што з часу ўваходу расейскіх сілаў яны страцілі каля 200 вайскоўцаў. Адзін з чачэнскіх камандзіраў, Шаміль Басаеў, паведаміў, што за апошнія тры тыдні загінулі таксама 45 чачэнскіх байцоў. *Chicago Tribune* лічыць, што зараз расейскія сілы ня лепш падрыхтаваны да апэрацыі, чым 4 гады таму. У іх нізкі баявы дух, карупцыя і недысцыплінаванасьць. «Уся наша зброя, у тым ліку ручныя ракеты, набытая ў Расеі», — прызнаў дарадца прэзыдэнта Масхадава Юсупаў. Ён заявіў, што за пляшку ў расейскіх вайскоўцаў можна купіць 10—15 гранатаў.

Сымпатыі сьвету ўсё болей схіляюцца на бок чачэнцаў.

**Зьміцер Снапкоўскі**

## А мы ўсё Вільнюс, Вільнюс...

Літоўцы вырашылі ў афіцыйнай мове памяняць назвы гарадоў Калінінградзкай вобласьці на традыцыйныя літоўскія. Савецк будзе цяпер называцца Тільже, Нёман — Рагайне, а сам Калінінград — Караляўчяй. Гэтак, паводле пастановы дзяржаўная камісіі літоўскай мовы, будуць цяпер аб'яўляць на вакзалах, пісаць на дарожных паказальніках, мапах і г.д. А яшчэ літоўскія дэпутаты хочуць браць чынны ўдзел у міжнародным абмеркаваньні лёсу самой Калінінградчыны, якую яны лічаць сваёй зямлёй. Маўляў, пасьля Пацдамскай канфэрэнцыі мінула 50 гадоў, на якія Калінінград аддалі Расеі, і цяпер пара вырашаць па справядлівасьці. Асноўныя прэтэндэнты на колішні Кёнігсбэрг — немцы і палякі. Трэба згадаць, што і ў старой беларускай традыцыі Калінінград называўся прыгожым словам Каралевец. Але што казаць, калі ў нас няма ні такой дзяржаўнай моўнай камісіі, як у літоўцаў, дый уласную старую сталіцу Вільню беларусы называюць Вільнюсам.

## Фашысты пачынаюць з рэфэрэндумаў

Літоўскае міністэрства юстыцыі восьмы раз адмовіла ў рэгістрацыі Саюзу Нацыянал-Сацыялістычнага Адзінства. Для прэсы ў краіне, дзе звычайна мала чаго здараецца, гэта сталася нагодаю зрабіць інтэрвію зь лідэрам літоўскіх фашыстаў, які завецца Міндаўгас Мурза. На пытаньне, што мусіў бы найперш зрабіць прэзыдэнт Літвы, Мурза адказаў: правесьці рэфэрэндум, які б даў яму большыя паўнамоцтвы. Выглядае, што літоўскі фюрэр цалкам ухвальна ставіцца да Лукашэнкі, які, стаўшы прэзыдэнтам, так і зрабіў — пачаў з рэфэрэндуму і забраў сабе ўсю ўладу ў краіне.

## І нават некаторыя сяляне...

29 верасьня споўнілася 470 гадоў з дня, калі ўступіў у дзеяньне Першы Літоўскі Статут. З гэтай нагоды ў друку зьявілася інтэрвію прафэсара Станіслава Лазуткі, галоўнага рэдактара акадэмічнага выданьня Статуту. На пытаньне пра мову, на якой быў напісаны Першы Статут, сп.Лазутка сказаў: «Мяркую, што назва «старабеларуская мова» — найбольш адпаведная з гледзішча гістарычнага і этнаграфічнага. У XVI ст. у пісьменстве Вялікага Княства Літоўскага ўжываліся таксама іншыя мовы — лацінская і польская — аднак афіцыйнай дзяржаўнай мовай заставалася старабеларуская. Гэта была мова Паноў Рады, соймаў, судоў і ўвогуле грамадзкага жыцьця. Баярства Вялікага Княства, жыхары гарадоў а нават некаторыя сяляне ведалі гэтую мову і паслугаваліся ёю». Як жа трэба было ўсяму зьмяніцца, калі сёньня беларускую мову ведаюць найперш «некаторыя сяляне»!



Лідэр літоўскіх фашыстаў Міндаўгас Мурза





## ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ ЧЫТАЧОЎ У МЕНСКУ

Каб чытаць сьвежы нумар «НН» у дзень выхаду – у панядзелак – і пры гэтым эканоміць час і грошы, аформіце падпіску ў бліжэйшым шапіку «Белсаюздруку», а <u>атрымліваць газэту можна ў любым менскім газэтным шапіку.</u>

Зь ліпеня 1999 г. падпіску «да запатрабаваньня» прымаюць 32 газэтныя шапікі. Менскі «Белсаюздрук» <u>гарантуе</u> выдачу газэты па падпісным абанэмэнце ў дзень выхаду газэты, а таксама захаваньне не забраных вамі асобнікаў праз увесь падпісны пэрыяд.

Кошт падпіскі на «НН» на месяц (з кастрычніка) – **192 000** руб. (4 нумары ў месяц, газэта выходзіць на 12 старонках). Падпіска «да запатрабаваньня» прымаецца да 23 дня перадпадпіснога месяца ў крамах і шапіках «Белсаюздруку» г. Менску. Даведацца і высьветліць няясныя пытаньні можна па тэл. 227-88-41 у спадарыні Натальлі Сьвятохі.

**Звычайная падпіска па краіне на IV квартал 1999 году. Кошт на 1 месяц – 212 000 рублёў, на 3 месяцы – 636 000 рублёў.**

**НАША НІВА**



<u>**Ніжэй мы падаем сьпіс пунктаў, дзе можна падпісацца й забіраць газэту:**</u>

1. Кастрычніцкі пункт падпіскі, вул. Жукоўскага, 5, к. 1
2. Партызанскі пункт падпіскі, вул. А.Кашавога, 8
3. Першамайскі пункт падпіскі, пр. Ф.Скарыны, 113
4. Фрунзенскі пункт падпіскі, вул. Рам. Слабада, 9
5. Крама № 1 вул. Жукоўскага, 5
6. Крама № 2 пр. Ф.Скарыны, 44
7. Крама № 3 пр. Ф.Скарыны, 76
8. Крама № 4 вул. Леніна, 15
9. Крама № 6 вул. Філімонава, 1
10. Крама № 7 вул. Якуба Коласа, 69
11. Крама № 8 вул. Сурганава, 40
12. Крама № 9 пр. Ракасоўскага, 140
13. Крама № 10 вул. Асіпенкі, 2
14. Крама № 11 пр. Пушкіна, 77
15. Крама № 12 вул. Кіжаватава, 80
16. Крама № 13 вул. Каліноўскага, 82, к. 2
17. Крама № 14 вул. Валадарскага, 22
18. Крама № 15 вул. Танкавая, 16
19. Крама № 16 вул. В.Харужай, 24
20. Крама № 17 вул. Някрасава, 35
21. Крама № 18 ст. м. «Плошча Перамогі»
22. Крама № 19 пр. Машэрава, 51, к. 1
23. Крама № 20 вул. Ясеніна, 16
24. Крама № 21 станцыя мэтро «Пушкінская»
25. Крама № 23 вул. Славінскага, 39
26. Крама № 24 вул. Жылуновіча, 31
27. Шапік № 34 гатэль «Менск», пр. Ф.Скарыны, 11
28. Шапік № 136 ст. м. «Плошча Якуба Коласа», выхад да Акадэміі Фізкультуры
29. Шапік № 187 гатэль «Беларусь», вул. Старажоўская, 15
30. Шапік № 262 гатэль «Плянэта», пр. Машэрава, 31
31. Шапік № 78 гатэль «Юбілейны», пр. Машэрава, 19
32. Крама №25 вул. К.Маркса, 21
33. Шапік №2 Лінгв.унів-т, вул.Захарава, 21
34. Шапік №16 Гатэль «Сьвіслач», вул.Кірава, 13
35. Шапік №18 Тэхн.унів-т, вул, ССвярдлова, 13/4
36. Шапік №37 Дом Ураду, вул.Савецкая, 11
37. Шапік №38 Педаг.унів-т, вул.Савецкая, 18
38. Шапік №40 Мінгарвыканкам, пр.Ф.Скарыны, 8
39. Шапік №88 Мінаблвык-м, вул.Энгельса, 4
40. Шапік №95 вул.Мясьнікова, 39
41. Шапік №198 Эканамічны унів-т
42. Шапік №209 МАЗ, вул.Сацыялістычная, 2
43. Шапік №228 Унів-т культуры, вул.Рабкораўская, 17
44. Шапік №232 МЗХ, пр.Машэрава
45. Шапік№243 Саўмін, вул.Савецкая, 9
46. Шапік №245 Бальніца хут.дапамогі, вул.Кіжэватава, 56
47. Шапік №298 пр.Машэрава, 75/1
48. Шапік №302 9-я бальніца

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125**

# ЗБОЖЖА НА ЗІМУ

*Працяг са старонкі 1.*

Але беларусы ўжо настолькі звыкліся з кепскімі прароцтвамі і нястачай, што не зважаюць на іх: «Ну, і што, што сабралі менш збожжа. Будзем есьці больш бульбы», — так сказаў у Нью-Ёрку віцэ-прэм'ер Навіцкі, так разважае сярэдні беларус. Але мы разумеем, што калі лясьне з-за браку кармавога збожжа жывёлагадоўля, базавая галіна нашай эканомікі, з рэшткамі цывілізацыі ў нашым ладзе жыцьця можна будзе разьвітацца. Каб высьветліць, што нас чакае ўзімку і пад весну, мы зьвярнуліся з пытаньнямі да кіраўнікоў сельскіх гаспадарак. Дык ці сапраўды так усё паскудна? Аказалася, што гаварыць зь імі ня так проста. Баяцца гаварыць зь незалежнай газэтай. Ня вераць. Махаюць рукою: *«Ваша ніва нашай ніве ўжо нічым не паможа»*. Такое ўражаньне, што ва ўсёй Усходняй Беларусі пануе пакорная безнадзейнасьць. Трохі мацнейшыя гаспадаркі захаду краіны да апошняга бурака вылізваюць палеткі, каб было хоць чым карміць жывёлу. *«Бычкоў да вясны датрымаем, хоць прыбаўляць яны будуць па 700 г, а не па 1000 г у дзень»*, — даказвае Аляксей Скакун, дырэктар комплексу «Астрамечава», што пад Берасьцем. *«Вялікай бяды ня будзе, калі зьменшыць пагалоўе жывёлы, толькі зрабіўшы гэта плянамерна й мэтанакіравана. Канечне, статак рагатага былда трэба захоўваць любой цаной, бо яго цяжка аднаўляць. Сьвіней жа і птушку пасьля лёгка аднавіць»*, — сьцьвярджае ягоны сусед Аляксандар Біч, дырэктар сьвінагадоўчага комплексу «Заходні».

Хоць гаспадарнікі й называюць сытуацыю «катастрафічнаю», падобна ўсё ж, што нейкага драматычнага выніку зімы ня будзе. Сельская гаспадарка як была, так і застанецца ні жывою, ні мёртваю. Хоць іншы раз ужо хочацца, каб падохла, дык можа б тады вымушаныя былі б пайсьці на рэформы. Бо і завал гэтага лета і няяснасьць, як зімаваць, яшчэ не даказалі ўладам, што без пераўладкаваньня нашай вёскі так і будзем мучыцца.

Кіраўнікі гаспадарак асьцярожныя і доўга падбіраюць словы: *«Каб нешта радыкальна зьмяніць у вёсцы, трэба мець доўгатэрміновую праграму,* — кажа Аляксандар Біч, дэпутат Вярхоўнага Савету 13 скліканьня ад Аграрнай Партыі, — *але яна можа аказацца і непапулярнаю, і значыць, таго, хто яе прыме, будуць біць. А на гэта цяпер ніхто ня пойдзе. Раптам нічога адбыцца ня можа»*.

Значыць, трэба думаць пра тое, што трэба зрабіць сёньня, каб уратаваць лішнюю тысячу сьвіней і кароваў. Усе сяльгасьнікі ў адзін голас гавораць пра арганізаваную закупку збожжа. Нарэшце дзяржава выдзеліла валютны крэдыт, яго даюць пад 15%, і ў калгасах гэтую лічбу лічаць вельмі людскаю (хоць па эўрапейскіх мерках гэта чыстая абдзіралаўка).

Трэба шукаць збожжа ў Польшчы, у якой яно ёсьць. Размовы пра закупку мільёну тонаў збожжа пад польскі крэдыт вядуцца, але гэта ўжо палітычнае рашэньне, і тут усё ўпіраецца ў асабістыя амбіцыі Лукашэнкі.

Другое, што трэ было б зрабіць даўно — адмяніць мытныя бар'еры й падатак на дададаную вартасьць на ўвоз збожжа з Украіны, але тут ізноў: Масква загадала Лукашэнку душыць Украіну, і ён сьвята выконвае гэтыя ўказаньні. *«Адмяніць жа ПДВ можа адзін толькі Лукашэнка»*, — у адзін голас цьвердзяць сяльгасьнікі. Таксама, дарэчы, ідыятызм. А ў сёньняшніх умовах дык і шкодніцтва. Лукашэнка перагарадзіў сваімі пражэктамі і амбіцыямі шлях да гаспадарчага выратаваньня Беларусі.

Гэтак мы разьвітваемся з XX стагодзьдзем. І нам няма чаго чакаць ад пачатку XXI-га.

Замест дзяржаўнай сыстэмы маем разваліны дзяржаўнай сыстэмы, падрыхтаваныя да расейскай прыёмкі. Замест нацыянальнай валюты — ва ўсіх сэнсах папяровы «беларускі рубель». Замест сілаў бясьпекі — раздзьмутыя войска, міліцыю і спэцслужбы, якія будзе няясна куды дзяваць і яшчэ болей няясна, як скарачаць. Замест заканадаўства — мешаніну савецкіх законаў, калек з расейскіх актаў і ўказы, што прымаюцца то заднім чыслом, то пярэднім. Замест інфармацыйнай прасторы — дзясятак бядняцкіх дзяржаўных газэтак і 6 расейскіх тэлеканалаў, што дураць галовы сваімі таўстамордымі Лужковымі й Беразоўскімі. Замест гаспадаркі — канглямэрат дажываючых, дзясяткі гадоў не мадэрнізаваных прадпрыемстваў, самыя вартыя зь якіх — як Жлобінскі мэталюргічны, Мазырскі нафтаперапрацоўчы, гарадзенскі «Азот», магілёўскае «Хімвалакно» — даўно аддалі пад кантроль расейскіх і чачэнскіх груповак. У дырэктарскіх крэслах гэтых прадпрыемстваў ніколі не сядзеў беларус.

Праблема ў тым, што ў Беларусі ўлады ня думаюць пра будучыню. Мінулага яны адракліся, і далей за наступны год ня бачаць. Праядальшчыкі.

А мы варожым штовосені, ці дажывем, як людзі, да вясны, ці апусьцімся яшчэ ніжэй. Разумеючы, што і дажывем, і апусьцімся.

Андрэй Дынько




**Беларусь сабрала 3,7 млн. т збожжа. А суседняя Літва, дзе надвор'е было ня менш сьпякотным — 2,5 млн. Але на плошчы ў тры разы меншай, чым у Беларусі.**

## СЫТУАЦЫЯ КАТАСТРАФІЧНАЯ

***Валянціна Тамільчык, намесьнік дырэктара сьвінагадоўчага комплексу «Заходні», Берасьцейскі раён:***

«Сытуацыя са збожжам і кармамі катастрафічная. Жабінкоўскі камбікормавы завод стаіць. У чацьвер у Міністэрстве было паседжаньне, на якім вырашылі выдзеліць валютныя крэдыты для вялікіх гаспадарак, хоць час ужо ўпушчаны. Ніхто нам проста так грошай не дае. Даюць у крэдыт: рублёвы пад 90% гадавых — і мы лічым гэтыя ўмовы кабальнымі. Цяпер нібы даюць і валютны пад 15% гадавых. Калгасы здаюць збожжа дзяржаве па 20000, а мы купляем гэтае збожжа ўжо па 30000. Вось і выходзіць, што за паўгады маем недахоп абарот-

# НЕ АПОШНЯЯ ЗІМА

***Міхаіл Залескі, экспэрт Нацыянальнага Інстытуту Сацыяльных, Эканамічных і Палітычных Дасьледаваньняў, лічыць, што прычыны сёньняшніх праблемаў трэба шукаць яшчэ на пачатку 70-х.***

Міхаіл Залескі: Калі мы зірнем на графікі сельскагаспадарчай вытворчасьці ў параўнаньні з 90-ым годам, мы бачым крутое піке. Беларусь ляціць чорт ведае куды. Але ўсё гэта зрабілася ня сёньня, не Лукашэнкам, і нават не Пятром Машэравым, зь якім носяцца, як дурні зь пісанай торбай, хоць ён тут шмат чаго нарабіў дрэннага для сельскай гаспадаркі.

**— У чым жа ягоная правіна?**

— Наконт сельскай гаспадаркі ён быў чыстым бальшавіком. Сказаў: «Мы павінны даць многа збожжа!» І былі схаваныя плошчы збожжавыя, то бок, усе працавалі на паказчык. Ад 70-га году вытворчасьць сельскагаспадарчая вагаецца і скача, куды хоча, але агульная тэндэнцыя ўсё ж — пэўнае паніжэньне. На тое ёсьць дзьве асноўныя прычыны. Асноўныя тэхнічныя фонды ў сельскай гаспадарцы зношаныя, фінансавае становішча саміх гаспадарак жахлівае, працоўных рэсурсаў няма.

Першым і найбольш моцным ударам па беларускай вёсцы была другая хваля ўрбанізацыі на пачатку 70-х. Потым, праўда, за кошт індустрыялізацыі, прыцягненьня рэсурсаў, сельская гаспадарка пачала разьвівацца, бо былі мінэральныя ўгнаеньні, трактары, адбывалася замена людзей тэхнікай. Але на мяжы 90-х гэты рэсурс быў вычарпаны. Я хацеў бы тут працытаваць Лукашэнку, які пад час свайго візыту ў Гарадоцкі раён нібыта са зьдзіўленьнем заўважыў, што, маўляў, гэна было тут да вайны 120 тысячаў людзей, а цяпер толькі 17 ці 20 там якіх, а ў Менску — чарга на кватэры 200 тысячаў. Яно так: у некаторых раёнах шчыльнасьць насельніцтва ўжо сібірская. Таму цяпер самае галоўнае было б — правільная арганізацыйная палітыка і выкарыстаньне сучасных тэхналёгіяў. Тыя ж комплексы антыэкалягічныя існуюць на ўсім сьвеце, і гэта самае эфэктыўнае, што мы маем на сёньняшні дзень.

**— Дык што Вы мяркуеце наконт рэфармаваньня калгасаў?**

— Мая думка такая: калі чалавек хоча мець новую хату, дык ён спачатку будуе яе, робіць улазіны, а ўжо толькі потым думае, як са старой упраўляцца, а не падпальвае спачатку старую. Любая рэформа павінна расьці зь сярэдзіны. А фэрмэрства ў нас знаходзіцца на прымітыўным узроўні. І прычына гэтаму відавочная. У Галяндыі, напрыклад, каб стаць фэрмэрам, трэба атрымаць адпаведную асьвету і прарабіць, як бы ў нас сказалі, парабкам сем гадоў. І толькі тады табе дадуць вялікі крэдыт на разьвіцьцё гаспадаркі.

Калгасны мэханізм працуе, самаўзнаўляецца і, самае галоўнае, ён зрабіўся мэханізмам і сацыяльным, ладам жыцьця. І тая калясальная колькасьць старых у вёсцы без калгасаў ужо ня вытрымае, бо ня будзе ў каго папрасіць, ня будзе дзе ўкрасьці, да каго зьвярнуцца.

Але пры гэтым калгасы, за выняткам якіх двухсот наймацнейшых, чэзнуць сёньня на корані. Зараз кіраўнікі калгасаў, атрымоўваючы камбікармы, думаюць, ці дажыве мой статак да Лукі, калі можна выправіць яго на траву, ці не дажыве. А не дажыве — маеш сэлектарную нараду. Але нават са зьменай улады нічога ня адбудзецца. Калі заўтра Зянон Пазьняк усядзе на белым кані ў Міністэрства сельскай гаспадаркі, дык калгасы ўсё роўна будуць жыць так, як жылі. У гэтым складанасьць праблемы. Гэная зіма — не апошняя ў жыцьці Беларусі, вось у чым праблема.

Неяк у 91-м годзе я езьдзіў у Эстонію на канфэрэнцыю па сельскай гаспадарцы. І адзін з прыбалтыйскіх спэцыялістаў сказаў так: «Ведаеце, хлопцы, хвост сабакам адсякаюць адзін раз, калі я люблю свайго сабаку. Ну, калі я яго ўжо вельмі-вельмі люблю і шкадую, то яму буду секчы хвост па кавалачках, у дзесяць прыёмаў. Дык якому сабаку будзе бальней і горай?» Прыбалты адсеклі сабаку хвост за адзін раз. У іх быў вялізны спад, але яны перамучыліся і зараз маюць. Ёсьць падставы для таго, каб і нам жыць. Трэба з нашай вёскай нешта рабіць, але дужа асьцярожна, бо яна нас можа патапіць хутчэй, чым Расея.

Просты разгон калгасаў нічога ня даў бы. Рэч ня ў тым, што гаспадарка павінна быць дзяржаўнай або кааперытыўнай: яна мусіць быць эфэктыўнай. У Польшчы, прыкладам, зямля у прыватным валоданьні, але і ў Афганістане якім-небудзь тое самае, у той час як у Даніі — кааператывы, а ў Ізраілі — кібуцы.

**— А што ж трэба нам рабіць у будучыні?**

— Каб магчы сябе забясьпечваць сельгаспрадуктамі, трэба разьвіваць буйную прамысловасьць, бо на парозе XXI ст. А ўрад займаецца размазваньнем грошай, і гэта можна назваць хіба што сацыяльнай абаронай: ты бедны чалавек і я бедны чалавек, на табе даляр, ідзі купі сабе чаго-небудзь выпіць.

**— Дзе і колькі будзе сёлета закупацца збожжа?**

— Дакладныя лічбы пакуль невядомыя. Закупкі, як заўсёды, будуць праводзіцца на падставе тэндэраў. Да таго ж, у нас існуе адмысловая дзяржаўная структура «Белаграінгандаль», які ўпаўнаважаны праводзіць падобныя апэрацыі. Іншае пытаньне, як мы будзем разьлічвацца. А ў каго купіць у крэдыт? Гэтыя структуры будуць зьвяртацца да Польшчы, але ж тая ў крэдыт не прадасьць, будуць зьвяртацца ў паўднёвыя рэгіёны Расеі, бо там у нас ёсьць магчымасьці: губэрнатары Кандрацэнкі, Наздрацэнкі, жыдабойцы, славянафілы —

ных сродкаў — 182 мільярды.

Раней збожжа найбольш закупалі ў Расеі, але сёлета там неўраджай, таму асноўная надзея — на Ўкраіну, але й кантракты, заключаныя з Украінай, не выконваюцца: у іх там выбары неўзабаве будуць, і перад выбарамі ўвялі забарону на адгрузку. Іншая праблема — тое, што так і не адмянілі ПДВ на ўкраінскае збожжа, і таму мы плацім звыш цаны (а цяпер танную пшаніцу купляем DAF па цане 90 даляраў за тону, а ячмень — па 85—87 даляраў) яшчэ 15%. ПДВ абяцаюць-абяцаюць зьняць, але так і не зьнялі. Вясною на нарадзе ў Іванаве нам сказалі: «Калі будуць ісьці буйныя партыі збожжа, ПДВ на іх будуць здымаць, і гэтае рашэньне будзе прымаць асабіста Аляксандар Рыгоравіч». Але якія ж цяпер вялікія партыі, скуль? Збожжа шчыняем патроху, шукаем, што толькі можам і дзе толькі можам: сёньня вось вырашылі купіць у адным месцы 20 т, у другім — 15 т. Нават па 6 т бярэм! Хоць ад гэтага столькі марокі, бо нам нявыгадна працаваць з малымі партыямі: наш комплекс у дзень спажывае 100 т! Крытычная сытуацыя і зь бялковымі дабаўкамі: на закупку соевага шроту, рыбнай мукі няма валюты.

Выжываем пакуль на сваёй кукурузе, мы — кукурузяная гаспадарка, і маем сёлета недзе 1,5 тысячы тонаў кукурузянай мукі. Яе й мяшаем патроху са збожжам і вітаміннымі канцэнтратамі (балазе нашы навучыліся рабіць някепскія канцэнтраты на заводах у Драгічыне, Пухавічах і аршанскім «Экамоле»). Таму і стабілізавалі дзённыя прывагі (цяпер маем 446 г у дзень на адкорме, а каб вы параўналі: летась было ў гэты час 518 г, пазалетась — 576 г у дзень). Але недзе пад першае чысло кукурузу даядаем. І што тады?

Дамоваў на пастаўку збожжа заключылі на 93 тысячы тон, гэтага нам хапіла б на 3 гады, але праблема ў тым, што дамовы часта не выконваюцца.

Мы ўвесь час шукаем выйсьця, шукаем любых варыянтаў паратунку: мы ня маем права не пратрымацца. Мы — сэлекцыйна-гібрыдны цэнтар, ад нас залежыць таксама праца іншых гаспадарак вобласьці, мы на ўсю вобласьць пастаўляем кныроў і племсьвінак. Будзем рабіць усё, каб ня зьменшыць абсемяненьня. Мабыць, прыйдзецца здаваць прадукцыю меншаю вагой. Што рабіць, калі мы ўжо пяты месяц кормімся толькі на 80% рацыёну. Але й гэта толькі дзякуючы супэрнамаганьням дырэктара й супрацоўнікаў і дзякуючы нашай фірмовай кукурузе. А ёсьць жа ў вобласьці гаспадаркі, дзе сьвіньням давалі ў асобныя месяцы толькі па 50% ад патрэбнага.

Ясна, што малых парасятак стараемся карміць лепш: яны ж як малыя дзеці, як жа іх не пакорміш. У той жа час на адкорме падсьвінкам даем менш, чым трэба. Выкормліваем толькі да 95—105 кг, а не да 118 кг, як можна было б паводле тэхналёгіі.

Мы перажылі 95-ы й 96-ы гады. У 95-м сытуацыя была падобная, але пачыналася гэта са студзеня, а сёлета — ад самага лета.

Мы жывем тым жыцьцём, што і ўся краіна. Цяпер галоўнае, каб зіму перажыць зь цяплом, і таму мы зрабілі ўсё, каб разьлічыцца за газ. Але запазычанасьці па электрычнасьці растуць.

Малым комплексам прасьцей: калі гаспадарка мае 12000 сьвіней і 7000 га зямлі, дык яна збольшага можа сябе забясьпечыць, а на нас — мы цяпер маем 53800, нам мусова мінімум 30000 т збожжа ў год — трэба, каб працаваў цэлы раён. А мы ж у раёне не адны, ёсьць яшчэ комплексы, дзе бычкоў гадуюць».

Запісаў Барыс Тумар



Фотаздымкі Анатоля Клешчука

# НА ПАКЛОН ДА ПОЛЬШЧЫ

***12 кастрычніка пакупнікі былі надзвычай узрушаныя. Напярэдадні камітэт цэнаў Міністэрства эканомікі Беларусі вырашыў узьняць цэны на хлеб масавых гатункаў на 30%, на батоны — на 20%.***

І дагэтуль шмат людзей, асабліва пэнсіянэры, трымаліся на хлебе ды малацэ. Прыгадваецца размова дзьвюх бабулек, сьведкам якой я стаў на трамвайным прыпынку. Адна скардзілася другой: сёньня мела на сьняданьне шклянку кефіру, дадала лыжку цукру, хацела ўзяць булку, але грошай не хапіла, таму піла кефір з хлебам...

Цяпер такім людзям будзе яшчэ цяжэй. Бальшыні старых у кастрычніку дадалі да пэнсіі па 300—400 тысячаў. Гэтых грошай хопіць на тры-чатыры боханы нармальнага хлеба. А да наступнай пэнсіі чакаць месяц.

Адзінае, што адрозьнівае чарговы рост цэнаў ад папярэдніх, гэта тое, што цяпер хлебапякарням даводзяцца аб'ёмы выпуску прадукцыі так званых масавых гатункаў. Таннага хлеба мусіць быць ня менш за 30% ад агульнага аб'ёму яго вытворчасьці, а батонаў — ня менш як 20%. Але нават у хлебных крамах у цэнтры Менску ўжо не хапае танных гатункаў.

Паводле Генадзя Усюкевіча, які адказвае за аграрны сэктар у Нацыянальным выканаўчым камітэце (ценявым урадзе), цэны на хлеб у Беларусі будуць расьці й далей, і прычына ў тым, што калгасна-саўгасная сыстэма аджыла свой час. Беларусь сабрала, паводле афіцыйных зьвестак, 3,7 мільёны тонаў збожжа. А суседняя Літва, дзе надвор'е было ня менш сьпякотным — 2,5 мільёны тонаў. Але на плошчы ў тры разы меншай, чым у Беларусі. Фактычна, у нас ураджай удвая меншы. Вось да чаго давёў Лукашэнка.

Дзе Беларусь будзе набываць неабходныя 2 мільёны тонаў збожжа? У Расеі? Але ёй самой не хапае. Ва Ўкраіне? Але там прэзыдэнт Кучма забараніў продаж зерня за мяжу. У Літве? Але зь ёй яшчэ не разьлічыліся за электраэнэргію. Можа, У Польшчы? Што беларускія ўлады зьвярталіся з такой просьбаю, пацьвердзіў намесьнік міністра эканомікі Польшчы Бэрнард Блашчык 7 кастрычніка, выступаючы з дакладам перад прадстаўнікамі беларускіх і польскіх бізнэсоўцаў на сэмінары «Добрасуседзтва-99».

Але валюты ў Беларусі няма, а попыт на трактары, грузавыя аўтамабілі й шэраг іншых тавараў нашага традыцыйнага экспарту значна скараціўся пасьля лібэралізацыі гандлю з краінамі Эўропы. Да таго ж Беларусь просіць у Польшчы мільён тонаў збожжа ў... крэдыт, пад ураджай будучага году. Палякі, як добра вядома, — народ з гонарам. І таму можна зразумець польскага калегу, які працуе ў Менску. Ён кажа так: *«Вашая тэлевізія ўсё лета распавядала, як дрэнна жывецца польскаму селяніну. А цяпер у нас жа просяць збожжа. Калі б усё залежала ад мяне, асабіста я адмовіў бы...».*

Зьміцер Снапкоўскі



павінны даць. Можна і ў дзядзькі Сэма папрасіць, Спэкгарда ж пусьцілі назад у хату, дык мо сказаць, што расейцам даеш, давай можа і нам.

**— Якім чынам закупаецца зерне ў калгасаў?**

— Умовы закупак у калгасаў вельмі жорсткія. Дзяржаўныя нарыхтоўкі адбываюцца прыкладна гэтаксама, як я падышоў бы да Вас, выцягнуў пісталет і сказаў бы: «Гэтую куртку я купляю ў Вас за 22 тысячы беларускіх рублёў. Пытаньні ёсьць?» «Не, не, дзядзечка, якія пытаньні. Дзякуй, што хоць жывым пакінулі», — і пабяжыце. Калгасы здаюць збожжа і радуюцца, што ім хоць нешта плоцяць. Можна, безумоўна, рынак адчыніць для замежнага прадпрымальніцтва, але мы ж ня вытрымаем, нашых вытворцаў зьмятуць. Таму Лукашэнка на нядаўняй нарадзе і гразіўся, што «палякаў пусьціць».

**— А ці пойдзе Лукашэнка на ўсталяваньне свабодных цэнаў на сельгаспрадукты?**

— Думаю, не. Па-першае, тут трэба адзначыць такое: на сьвеце толькі адна дзяржава, і тое да пэўнага часу, не аказвала ніякай дапамогі сельскай гаспадарцы, гэта Аўстралія. Раней ці пазьней сельская гаспадарка ў сучасным сьвеце патрабуе дапамогі, бо яе інвэстыцыйны цыкль не адпавядае тым тэмпам жыцьця, якія мы сёньня маем. Людзі мусяць атрымліваць дапамогу, выконваючы найважнейшую сацыяльную функцыю забесьпячэньня эканамічнае жыцьцяздольнасьці дзяржавы. Дзяржаўнае рэгуляваньне мусіць быць.

Згадаем Польшчу: 13 сьнежня 1980 году там абвесьцілі ваеннае становішча. А перад тым стала вядома, што на зіму было назапашана хлеба толькі 17% ад патрэбы. І Ярузэльскі, як разумны чалавек, сказаў, што калі людзі пойдуць ужо шукаць сабе што зьесьці, то ніякая «Салідарнасьць» іх утрымаць ня зможа. Дастаткова ўявіць сабе, як у Менску з Чыжоўкі, Серабранкі ідуць вясёлыя натоўпы і пытаюцца, хто зьеў іхнае мяса. У адной з працаў Піцірыма Сарокіна ёсьць мэтафара: «ківач рэвалюцыі». Дык вось, калі ківач хітнецца ў адваротным кірунку, то спатрэбіцца супэрлукашэнка, каб яго стрымаць. Марксісцкая інэрцыя, інэрцыя цэнтралізму прымушаюць наш дзяржапарат працаваць на паступовае, павольнае закручваньне гаек. Крый Божа, сарвуць нарэзку на гэтых гайках.

Гутарыў Анатоль Прасаловіч

## вэсткі з Падняпроўя

### Бычкам сумна

Чым далей, тым горш становіцца ў беларускай вёсцы. А найгорш — скаціне.

У Касьцюковіцкім раёне Магілёўскай вобласці сытуацыя тыповая. Кармоў не хапае, скаціна дохне. Тут самы высокі ўзровень захворваньняў на жывёльную сухоту, 70% кармоў гаспадаркі падрыхтоўваюць у так званай зоне адчужэньня — г.зн. у радыяцыйна забруджаных мясьцінах. Як прызнаўся шэф касьцюковіцкіх вяскоўцаў Віталь Грышанаў: «Выхад можна знайсьці зь любога становішча, але... безь зьмяншэньня пагалоўя наўрад ці выцягнем, ня кажучы ўжо пра атрыманьне прадукцыі». Самыя дрэнныя лічбы ў калгасах з самымі тыповымі назвамі «Ленінскі шлях» і «Расея». Касьцюковіцкія гаспадаркі зьбіраюцца перакідваць скаціну з адных гаспадарак у другія, дзе справы трохі лепшыя. Так, бычкоў, па словах Грышанцава, «з усіх гаспадарак забярэм у калгасы «Новы сьвет» і «Парыская камуна», дзе маецца сьпіртзавод і ўчастак, каб паставіць маладняк на бардзяны адкорм».

### На прыпынку доўга стаяць халодна

У Магілёве, Бабруйску, Крычаве жыхары адчулі на сабе адно з наступстваў эканамічнага крызысу. На 30—50% зьменшылася колькасьць грамадзкага транспарту, што выпускаецца на лініі. Бо няма грошай на паліва і электраэнэргію.

### Ні газу, ні балёнаў

Кіраўнік Дрыбінскага райаддзелу па газазабесьпячэньні заклікаў жыхароў раёну выкарыстоўваць газ толькі для прыгатаваньня ежы, бо, сказаў ён, склалася «катастрафічнае становішча з забесьпячэньнем газам». Замест патрэбных 2500 газавых балёнаў у раён завозіцца крыху больш за 500. За балёнамі выстройваюцца вялізныя чэргі. У Дрыбінскім раёне шмат жыхароў-перасяленцаў з «чарнобыльскіх» раёнаў. Яны жывуць у дамах, якія не прадугледжвалася тапіць печкамі. Чыноўнік сказаў, што «перапал газу ў 3 разы перавышае норму». Цэнтралізаванае ацяпленьне яшчэ не падключалі.

Іван Засада



Малюнак Сяргея Харэўскага.

# ДАБРАДЗЕЙСТВА

*«... людей добрых, вере годных ...»*
*(з актавай кнігі)*

Вольга БАБКОВА

Зусім ня варта ўяўляць стрададаўняга чалавека суцэльным гвалтаўніком, рабаўніком і злодзеем. Нават судовыя актавыя кнігі, пераважную большасьць пэрсанажаў якіх прыцягваюць да закону за ўчыненыя шкоды, сьведчаць і пра сьветлы бок чалавечае асобы. Годнасьць праяўлялася ў розных жыцьцёвых сытуацыях — і ў звыклай будзённасьці, і перад абліччам сьмерці, што адлюстроўваюць шматлікія тэстамэнты-запаветы.

Высакародзтва чалавека, бадай што, найбольш яскрава праяўлялася ў здольнасьці дараваць, адкрыта прызнаваць свае памылкі і з годнасьцю выпраўляць іх. Каяліся і мяшчане, і шляхта. Паходжаньне тут ня мела вялікага значэньня.

У слонімскага мешчаніна Макара Летуновіча *«в ночы на авторак»* быў скрадзены конь. Знайшоўся і *«чоловек подозроный» «пострigачик тутошни Васка Деменевич»*, пра якога казалі, што *«у Вильни злодейство вчинил»*. Нягледзячы на тое, што абвінавачаны пераконваў суд у сваёй невінаватасьці, *«... што не ест чоловек подозроный, ани шкодник, ... жем у Вильни и на кожным месты добре и почтиве служил, заховуючися яко на доброго чоловека»*, Макар адвёў таго хлопца ў вязьніцу. А праз пэўны час прыйшоў да судзьдзі з просьбай вызваліць невінаватага, бо *«посадилом того постригачика з намовы людское, менилом его шкодником своим, с того его тепер вызволям и добрым чоловеком называм, не вем до него ниякого подозреня и не ест ми шкодник, одно добрый, почтивый чоловек, готовем ему бить чолом, за соромоту его досыть чынить»*. Судзьдзя, *«обачивши»*, што Макар Летуновіч *«невине чоловека збезчестил»*, пакараў яго рублём грошай.

Па-людзку пагадзілі паміж сабой пан Мікалай Юндзіл і каралеўскі падданы ў справе, якая магла дайсьці да суду, бо тычылася крадзяжу. Падданы зь вёскі Саленікі пазнаў сярод падводаў пана Юндзіла свайго каня, які быў скрадзены ў яго два гады таму. Пакліканаму на месца знаходкі вознаму пан Юндзіл распавёў, што *«тую клячу выменял в 1575 року пасля богатого свята в Волковыйску у цыгана...»* і, зьвяртаючыся да падданага, прасіў, *«абы пададны его королевской милости клячу свою взял, а его вольным учинил...»*. Падданы ж, панаракаўшы на сваю вялікую шкоду, *«але памитаючы на Бога, ему то отпустил, а клячу оную яко свою властную да себя взял»*.

Людзі паслухмяна выконвалі законы.

У зямянкі Янавай Стужынскай зьнікла чалядніца. Хтосьці паказаў на двор суседа пана Мікалая Рэкуця, дзе бачыў уцякачку. Зямянка пасылала да суседа сына «и приятелей своих, просечы, абы тую челядницу Устинью выдал, яко добры прыятель а сусед мой». Пан Рэкуць адказаў праз пасланцаў: *«ниякое жонки пане Стужынское в дому своем не мел, ани маю. Прышла дей была до дому моего жонка неведаю чыя, але дей опять з дому моего проч пошла...»*. Пані Стужынская, не супакоіўшыся, зьвярнулася да судзьдзі гродзкага менскага Крыштафа Рэкуця з просьбай *«абы брата своего напомнел, жебы ми тую жонку челядницу кром жадного затрудненя выдал»*. Тады Мікалай Рэкуць адказаў: *«Праўда..., иж тая жонка была у мене в дому моем, але дей яком побачыл на ней пута, зрозумялем с повести ее, иж у великой неволи была. Казал ей з дому моего проч пойти, бо ми се дей того годило, яко чоловеку хрестияньтскому учынить чоловеку, неволею утрапеного, негамовать»*.

Літасьць, спачуваньне чужой бядзе і нядолі — з такімі пачуцьцямі ставіліся ня толькі да сваякоў, сямейнікаў, але і да зусім незнаёмых людзей, хто б яны ні былі і дзе б ні сустракаліся.

Адзін зямянін *«ручил»* падданага, якога ягоны пан загадаў *«за злодейство на шыбеницу»*. *«Сило в него з шии знял... а если бы платить не мел чым, тогды на выроб, а не на смерть, а ни в неволю...»*

*«Кождый ест завжды близшый смерти»*, і, сыходзячы з гэтага *«мизернага света»*, чалавек разумеў сваю адказнасьць перад тымі, каму яшчэ наканавана было тут заставацца.

У тэстамэнце як перадсьмяротным дакумэнце цалкам адсутнічае жах сьмерці, радкі з тэстамэнтаў самі сабою сьведчаць пра разуменьне чалавекам таго, што зь ім адбываецца ці мусіць неўзабаве адбыцца. *«Ознаймую то на сей духовницы моей, што если кому на сим свете винен — напервей винен есми на небо — Богу милостивому душою моею, а телом грешным до земли»*, — пісаў перад сьмерцю возны Марка Клімовіч.

Найважнейшай справай чалавека на парозе нябыту, было, *«яко бы на душы жадная реч не зостала и не шкодила»*, таму трэ было сплаціць усе свае зямныя пазыкі, — *«малжонку и дети от кривд боронити»*, падзяліць маёмасьць кожнаму па заслугах, прыгадаць усіх крэўных, абы між імі *«замешанья»* не было, не забыцца на кожную драбязу. Гэтак шляхціц Ян Голас, вызнаючы сябе як *«чоловека грешного, раба Божага»*, *«отказуе»* сьвятару Лаўрыну Касьцюковічу пасьля свайго пахаваньня пры царкве *«узловецкой заложенья св. Ильи»* — *«корову перестую»*.

Шляхціц Ждан Словік жонцы Тацяне Сапежанцы і сынам Фёдару, Грыгорыю, Васілю, Багдану і Льву *«покой вечны зоставил, абы се потэм по смерти моей межи ними якие розницы и ростырки не деяли...»*, а таксама перадаў лісты, па якіх яны мусілі б вярнуць тыя даўгі, якія пры жыцьці бацькі бралі ў яго розныя людзі. Апроч грошай гэта былі розныя патрэбныя рэчы. Гэтак Дземень Дзюка мусіў вярнуць срэбныя лыжкі, Крыштаф Баба — шаблю, шышак і панцыр, татарын Ях'я Сабака — каня і жыта.

Княгіня Мар'я Палубенская сваёй апошняй воляй загадала адпусьціць сваіх падданых — *«...челяд невольную... на волю выпущаю и вызволяю, нехай за душу мою Бога просят»*.

Біблія і Статут — асноўныя крыніцы, якімі кіраваўся чалавек, калі і ня ўсё жыцьцё, дык пры канцы яго, складаючы свой тэстамэнт — *«... письмо Боже учит, абых мы то каждому кому што власне належи спольна отдавали, так теж и Статут права посполитого Великого князства Литовского теж каждого чоловека с того перестерегают, яким обычаем маетностю от Бога даною шафовать...»*. «Тэстаментом Божим» назвала Эвангельле зямянка Ганна Стэцкевіч у сваім апошнім слове.

Праблема дабра і зла была надзённай для духоўнага жыцьця і ў тагачасным грамадзтве. Можна ўявіць сабе нават дыскусіі на гэтую тэму сярод розных людзей і ў розных сытуацыях. Сьведчаньнем могуць быць нечаканыя вершаваныя радкі, пакінутыя пісарам слонімскага земскага суду Іванам Суетам у актавай кнізе на чыстым аркушы напрыканцы чарговага сшытку, відавочна для самога сябе, а можа і з разьлікам на невядомага чытача ў невядомай будучыні.

*«Цнотливый чоловек каждый*
*стреже сумненья своего завждый.*
*Бо цнота каждого цнотливого*
*быва вывышона над злото,*
*а нецнота быва подептана из*
*славов его в блото»*
*(1591 г.).*

**Слоўнік старабеларускай мовы:**
**зайстье** — *цяжба, сварка, сутыкненьне*
**выналясак** — *выдумка, задума, пастанова*
**выступок** — *злачынства, ліхадзейства, здрада*
**гамаваць** — *затрымаць*

# 75 гадоў таму

**1924**-ы. Ужо мала засталося беларусаў, якія памятаюць той год. Беларусь падзеленая Рыскай дамовай. На Ўсходзе бальшавікі будуюць «новае жыцьцё», на Захадзе палякі аднаўляюць Рэч Паспалітую. Для жыхароў «абедзьвюх Беларусяў» галоўнае, што ўжо чатыры гады, як скончылася вайна. Можна перадыхнуць і пачаць ладкаваць гаспадаркі і сем'і, хто «пад прыгнётам панскім», хто «на ленінскім шляху».

**1924**-ы — «лібэральны» час для ўсіх беларусаў. Яшчэ не паднялі галавы польскія шавіністы, яшчэ не пачаліся масавыя «раскулачваньні». З абодвух бакоў польска-савецкай мяжы працуюць беларускія школкі і культурніцкія арганізацыі. У Савецкай Беларусі нават праводзіцца «палітыка беларусізацыі». З сакавіка Ўсерасейскі Цэнтральны выканаўчы камітэт прымае пастанову аб вяртаньні БССР тэрыторыі Падняпроўя, апроч Гомельскага і Рэчыцкага паветаў. (Яны будуць далучаныя ў сьнежні 1926 году.) На ўсю моц квітнее НЭП. Ствараецца «Белкаапсаюз». А таксама акцыянэрныя таварыствы «Радыёвяшчаньне» і «Белдзяржкіно».

Пачынае выходзіць дзіцячы часопіс «Бярозка». Ствараецца Беларускі музычны тэхнікум, а ў БДУ пачынаюць дасьледаваньні па калёіднай хіміі. Праводзяцца першыя рэспубліканскія спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы...

У Менску Ян Скрыган дэбютуе вершамі ў пэрыёдыцы; Андрэй Александровіч і Анатоль Вольны выдаюць зборнік вершаў «Камсамольская нота»; Ізі Харык — паэму «Менскія балаты»; Міхась Чарот — зборнік апавяданьняў «Веснаход». У Вільні выходзіць зборнік вершаў Казімера Сваяка «Мая Ліра».

У Коўне Вацлаў Ластоўскі выдае «Падручны расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік», які перавыдадуць факсымільным спосабам у 1990 годзе ў Менску. Слоўнік дагэтуль зьяўляецца бэстсэлерам. У Вільні Францішак Аляхновіч выдае першую беларускую тэатразнаўчую працу «Беларускі тэатар». Там жа ў Вільні А.Васілеўскі пачынае выпуск беларускага гумарыстычна-сатырычнага часопіса «Авадзень». Часопіс выходзіў да 1925 году два разы на месяц... А ў Японіі Акутагава Руноскэ выдае зборнік псыхадэлічных навэляў «Восень»; нараджаецца другі славуты японскі пісьменьнік — Коба Абэ...

Пачалося будаўніцтва Пакроўскага сабору ў Баранавічах.

Зрэшты, «лібэральным» гэты год можна назваць адно ў параўнаньні з будучыняй, пра якую яшчэ ніхто не здагадваецца. Пад уплывам «пераможных посьпехаў» ва Ўсходняй Беларусі беларускія заходнікі распачынаюць актыўную дзейнасьць па «сацыялізацыі» грамадзкага жыцьця. У 1924 ствараецца падпольны Камуністычны Саюз Моладзі Заходняй Беларусі, які перад закрыцьцём у 1938 налічваў 3500 чальцоў. 12—14 траўня праходзіць VIII зьезд КП(б) Беларусі.

З 14 лютага 1924 па 19 красавіка 1926 году ў Вільні выдавалася два разы на тыдзень газэта «Голас Беларуса». Рэдактарам-выдаўцом быў Мікола Шыла. (Зьяўляецца вершык «Беларусь, мая старонка, куток цемнаты. Жывы Шыла, Грыб, Мамонька, будзеш жыць і ты».) Газэта «крытычна аналізавала палітыку польскага ўраду», а пэрспэктывы вызвольнага руху Беларусі зьвязвала з БССР, за што была зачыненая. Прычым, Шылу «зачынілі» на некалькі гадоў.

22 верасьня ў Вільні пачынае выходзіць штотыднёвік «Грамадзкі Голас», газэта Беларускай Часовай Рады, арганізацыі, якая крытыкавала як БНР, гэтак і БССР. Не прымала «камунізуючай ідэалёгіі і рэвалюцыйных мэтадаў» беларускага пасольскага клюбу ў польскім Сэйме, «памяркоўна крытыкавала палітыку польскага ўраду». Як вынік, праіснавала толькі да 28.1.1926, бо ў барацьбе «сацыялістычных беларусаў» і «капіталістычных палякаў» не засталося для яе памяркоўнацэнтрысцкага месца...

Што да «простых людзей», дык яны найбольш турбаваліся ў зьвязку з грашовымі рэформамі, якія праводзіліся ў Польшчы і СССР. Заходнія беларусы мянялі тагачасныя польскія «фанцікі» на «нармальныя грошы» (з 1.1.1924). У красавіку 1917 у Польшчы зьявіліся акупацыйныя «маркі польскія», якія з 1918 былі часовай валютай у адноўленай Рэспубліцы. Калі ў 1917 найбуйнейшая купюра мела намінал 1000, дык у 1923 на самай вялікай купюры красавалася лічба 10 000 000. Пры абмене адзін злоты быў роўны 800 000 марак.

У тым самым годзе ўсходнія беларусы мянялі «совдензнакі» на «сапраўдныя грошы». Праўда, за тры гады існаваньня «знакаў» намінал банкнотаў дапоўз адно да пяцідзесяці тысячаў. Менавіта столькі давалі за адзін «сапраўдны» рубель. Рубель будзе спаўзаць сабе паціху ў інфляцыйнае балота, аж пакуль у 1937 годзе яго не прывяжуць да даляра.

Хтосьці ехаў у Амэрыку, хтосьці — вучыцца ў Маскву, Варшаву ці які Ратэрдам...

Да першай хвалі калектывізацыі заставалася пяць гадоў, да прыходу ў Заходнюю Беларусь «першых саветаў» — пятнаццаць, да пачатку масавых карных экспэдыцыяў фашыстаў — васямнаццаць.

**Севярын Квяткоўскі**




*Мапа Беларусі з газэты «Зьвязда» за 1926 год. Цікава, што на ёй чатыры расейскія раёны (расейскія яны й дагэтуль: Невель, Себеж, Вяліж і Клінцы) вылучаныя як патэнцыйна беларускія тэрыторыі, якія могуць быць перададзеныя ў склад БССР.*

# Па-над прорвай

*У выдавецтве «Наша Ніва» рыхтуецца да друку новая кніга Васіля Быкава*

*Яе складуць не традыцыйныя для празаіка аповесьці, а кароткія прыпавесьці, напісаныя за год побыту пісьменьніка ў Фінляндыі. Некаторыя зь іх друкаваліся на старонках «НН».*

*Новае амплюа Васіля Быкава выклікае розныя ацэнкі чытачоў і крытыкаў. Хтосьці кажа, што 75-гадовы патрыярх «выпісаўся» і таму не бярэцца за буйнейшыя творы. Можна пачуць таксама, што пісьменьнік сьпяшаецца непасрэдна ўплываць на палітычную сытуацыю ў Беларусі. Кажуць іншы раз аб прадказальнасьці прыпавесьцяў. Што да апошняга, дык прадбачыць фінал можна і ў клясычных быкаўскіх аповесьцях. У гэтым сэнсе пісьменьнік ніколі не інтрыгаваў чытача, пакідаючы сабе іншыя спосабы захапіць увагу.*

*Нарэшце, кажуць пра пэсымізм быкаўскіх твораў. Але й гэта не навіна для пісьменьніка.*

*Між іншым, гэты самы быкаўскі пэсымізм патрабуе больш уважлівага погляду. Гінуць усе героі таксама і ў Шэкспіра, якога ніхто пэсымістам не назаве. Магчыма, так адбываецца з-за таго, што эпоха Гамлета далёкая і яе рэаліі не адчувальныя. А гэта значыць, што праз трыста гадоў і Быкаў можа не ўспрымацца як пэсыміст, калі пэсымістычны эмацыйны зарад утрымліваецца менавіта ў блізкім і зразумелым нам антуражы, скажам, у вопратцы герояў ці іхнай манеры гаварыць. Далёкі нашчадак можа ўспрымаць гэта як проста антураж, ніяк не датычны яго асабіста — ягоных пачуцьцяў і адчуваньняў. Тады застанецца адно пазачасавыя псыхалягічныя сытуацыі і ўяўленьне пра нашу эпоху, яе норавы. Зь іншага боку, тыповы беларус заўсёды сыходзіў зь філязофскага пасылу «спадзявайся на лепшае, а рыхтуйся да горшага». І тут быкаўская паралельная рэальнасьць захапляе менавіта гэтым — магчымасьцю не прапасьці, калі ў поўнай меры адчуеш, якая прорва гатовая раскрыцца пад тваімі нагамі.*

*З такой вось беларускай сялянскай дакладнасьцю Быкаў вымалёўвае сытуацыі таго самага горшага, да чаго варта рыхтавацца. Вы скажаце — а пры чым тут мы? Мы ж ня слуцкія паўстанцы, і не савецкі афіцэр Сотнікаў на мінулай вайне, і нават не героі «Ваўчынае ямы», што падаліся ў радыяцыйную зону. Слушна. І вось тут ангажаванасьць Быкава, ягоная творчая блізкасьць і неабыякавасьць да сёньняшняга грамадзка-палітычнага жыцьця краіны, можа быць, нават мімаволі, дыктуе яму імкненьне наблізіць свае прароцтвы таго самага горшага да сёньняшняга чытача і тым засьцерагчы яго ад прорвы. Згадаю тут пашыранае меркаваньне пра фільмы жахаў, што патрэбныя на тое, каб адцягнуць некантраляваныя эмоцыі з жыцьця ў бяскрыўдную кіназаль. Але як гэта зрабіць, як засьцерагчы свой народ ад русіфікацыі і магчымага ў будучыні поўнага зьнікненьня, калі Быкаў не фантаст і ў прынцыпе цураецца гэтага жанру? Вось тут і зьяўляюцца прыпавесьці — гэткія казкі для дарослых, дзе на беларускай мэнтальнай аснове даюцца часам зусім адцягненыя схемы таго самага горшага, што можа чакаць неразумнага чалавека і неразумны народ. Прыпавесьці Быкава — як абярэгі. Прычым ствараюцца яны ў на парадак больш даступнай форме, чым ранейшая быкаўская літаратурная клясыка. Прыпавесьці можна друкаваць у масавай газэце, і станоўча адгукаюцца пра іх найперш людзі, далёкія ад літаратуры і літаратуразнаўства. Іншая рэч, што аўдыторыя народнага пісьменьніка магла б быць значна большаю, каб ня сёньняшні палітычны рэжым, які, у сваю чаргу, вычытвае ў гэтых творах і сваю непазьбежную пагібель.*

Крыт.

**Беларус заўсёды сыходзіў зь філязофскага пасылу «спадзявайся на лепшае, а рыхтуйся да горшага». Быкаў вымалёўвае сытуацыі таго самага горшага, да чаго варта рыхтавацца.**



## Задача — утрымацца на паверхні

**Ігар Бабкоў,** *літаратар:*

Сёньня я расчараваны прафэсійнай крытыкай, таму казаць, што прыпавесьці Быкава — гэта прагрэс альбо рэгрэс у творчасьці пісьменьніка, даваць ацэнкі, мне асабіста ня так цікава. Я б паставіў пытаньне інакш: чаму пасьля вельмі моцных псыхалягічных рэчаў яшчэ савецкага пэрыяду, потым — ня менш моцных сымбалічных рэчаў, паўстаў такі жанр, як прыпавесьць, што гэта значыць для самога пісьменьніка і для самой нашай рэчаіснасьці? Прыпавесьць — гэта алегорыя, гэта не сымбалізм, не псыхалягізм. Алегорыя — гэта заўсёды паверхня, пэўная плыткасьць. Чаму раптам пасьля такіх спробаў праламіць паверхню, выйсьці за нарматыўную савецкую рэчаіснасьць у псыхалягізм, праблемы чалавечай душы, альбо выйсьці за ня менш нарматыўную нацыянальную паверхню беларускай долі ў трагізм сытуацыі і знайсьці сымбаль для гэтага трагізму, як тая ж спаленая хата ў «Знаку бяды», чаму раптам зьяўляецца гэтая паверхня?

Мне здаецца, што шукаць адказу трэба ў статусе самой рэчаіснасьці, у якой сёньня мы жывем. Савецкая рэчаіснасьць была надзвычай закансэрваваная, яна практычна і тэарытычна не мянялася. І адсюль гэтыя спробы праламіць яе і праваліцца ў гэтую дзюрку. Тое ж самае з рэчаіснасьцю нацыянальнага лёсу, так званай беларускай доляй: гэта ўжо амаль што абсалютная канстанта. А сёньняшняя рэчаіснасьць ня проста дынамічная, яна, па сутнасьці, ёсьць хаосам: няма ніякіх канстантаў, і часам здаецца, што ўвогуле засталася толькі паверхня, што няма больш ніякіх ані глыбіняў, ані вышыняў. Задача — проста ўтрымацца, застацца на гэтай паверхні. Ты хаатычна шукаеш, за што зачапіцца. Адсюль гэты алегарызм, спроба хоць бы элемэнтарнымі спосабамі зафіксаваць тое, што адбываецца.

## Быкаў ніколі не вызначаўся аптымістычнымі поглядамі на цывілізацыю

**Юрась Бушлякоў,** *філёляг:*

Я б сказаў, што ўсюды — і ў апавяданьнях, і ў аповесьцях — прысутнічае пэўны прыпавесьцевы элемэнт, як, напрыклад, у ягонай вялікай, разгорнутай амаль да памераў аповесьці «Трубе». У сваіх творчых пошуках Быкаў застаецца ў каардынатах экзыстэнцыйнай праблематыкі, экстрэмаль-

# ВУЦІНЫ СТАТАК

Васіль БЫКАЎ

Невялічкі вуціны статак рыхтаваўся ў вырай.

На азёрах ужо ўсталявалася восень, стала сьцюдзёным паветра, дзьмулі напорыстыя паўночныя вятры. Колькі дзён запар зь няласкавага хмарнага неба чуліся разьвітальныя крыкі журавоў — тыя ўжо ляцелі туды, дзе грэла сонца, была цеплыня і шмат корму. Вуціны статак яшчэ там ня быў; вутачкі вывеліся апошняй вясной у тутэйшым возеры, за лета падрасьлі сярод трысьнягу ды асакі і дбалі толькі пра адно — як наесьціся. Сёлета з кормам стала кепска, ад няспынных дажджоў вада ў азёрах стаяла высокая, падтапіла берагі сенажацяў; буза, якую заўжды падабалі вуткі, апынулася глыбока пад вадой, даставаць зь яе корм было нязручна і цяжка. Ды й корму там чамусь усё менела, бо здатныя мясьціны пазамывала пяском з раскапаных экскаватарамі берагоў. Вуткі да восені пачуваліся слабымі, кепска расьлі і заўсёды былі галодныя.

Стары вуцяк ужо колькі дзён адчуваў пэўны трывожлівы неспакой — трэ было ляцець. Вадзяное птаства падпарадкоўвалася інстынкту, спрадвечнай птушынай волі, якая пэўнаю восеньскаю парой гнала птушак на поўдзень, дзе быў паратунак ад голаду й сьцюжы. Але гэты малады статак ня ведаў таго і, мусіць, мала што адчуваў. Змучаныя летнім недаяданьнем вуткі не пераставалі куляцца ў вадзе куцымі задкамі і шныпарыць па дне нястомнымі дзюбамі.

Неяк ураньні, як трохі пасьвятлела неба, нізка над хмарамі, лапочучы крыльлем, праляцеў вуціны шнурок, — гэта выправіўся ў вырай суседні статак з бліжняй затокі. Адчуўшы чарговы прыступ неспакою, вуцяк трохі прыўзьняўся ў вадзе і трывожліва заляскатаў крыльлем, даючы тым знак увагі свайму невялічкаму статку. Але ніводнай зь ягоных вуцятаў не было побач. Тады ён хуценька паплыў уздоўж трысьнягу гэтага даўжэзнага, на колькі вёрстаў возера і хутка ўбачыў усіх. Ягоныя вуткі зь нейкай неранейшай жвавасьцю куляліся ў мутнай вадзе, і вуцяк зразумеў: яны патрапілі на спажыву.

Тутэйшы бераг быў голы, без травы і кустоў. Наводдаль за гарбатым пагоркам высіліся два закапцелыя коміны, у неба зь якіх няспынна плыў дым. Увогуле тут было зацішна, пагорак затуляў невялічкую затоку ад сьцюдзёнага паўночнага ветру. Але неверагодна, каб тут выдалася кормнае месца, ды, мусіць, так. Інакш бы вуткі не мітусіліся з такой жвавасьцю, нібы ў апошні раз прагнучы наесьціся. Вуцяк таксама нырнуў паблізу, звыкла працерабіў дзюбкай па мяккім дне і адразу адчуў і сьцяміў, адкуль корм. У вадзе, схаваны пад крутым берагам, тырчэў канец бэтоннай трубы, зь якой штось плыло ў возера — мутнае, але прыемнае на смак.

У той дзень вуткі добра напіхалі свае тугія вальлі, пад вечар ледзьве варушыліся на вадзе і заначавалі купкай у недалёкім рэдзенькім трысьнягу. Вуцяк, які таксама з поўным вальлём прыплыў туды апошні, стомлена задрамаў, закалыханы на дробных хвалях, маючы пэўны намер заўтра ляцець.

Але назаўтра, як толькі ў небе над возерам стала віднець, вуціны статак навыперадкі памкнуў з трысьнягу ў затоку. Вутачкі адразу пачалі апантана куляцца, ныраць — сілкавацца. Мусіць, перад адлётам нягожа было надта набіваць свае вальлі, але вуцяк ня мог перапыніць іхную прагнасьць. Ды і сам ахвотна падсілкоўваўся разам, думаючы: хай наядуцца, а ўжо затым ён іх падыме ў палёт. Мусіць, такой жа думкі была і старая вуціха-маці, якая напачатку падплыла да вуцяка, коратка крэкнула і адразу падалася да статку. Яна і падрослых вутачак не пакідала без нагляду, хоць порсткія дочкі ўжо ня надта і слухалі яе. Ня тое што некалі малыя...

Гэтаксама ва ўвішняй мітусьні прамінуў і другі дзень. Вуткі ўволю наеліся, і ледзьве прыплылі ўвечары ў зацішны трысьнёг. За імі прыплыў вуцяк, і ўвесь невялічкі статак супакоена зазыбаўся на ціхай вадзе.

Назаўтра ранкам вуцяк выплыў з трысьнягу першым і гучным ляскатам крылаў падаў знак сабрацца да яго бліжэй. Вуціны статак адразу ажывеў, абудзіўся, але да вуцяка падплылі толькі тры вутачкі, астатнія порстка пашыбавалі пад кормны абрыў. То ўжо было непаслушэнства, вуцяк гатовы быў моцна абурыцца. Але ня ўмеў як — вуціная мова была памяркоўная і скупая. Свой новы сыгнал крыламі ён адрасаваў да вуціхі, якая была таксама скіравала за вуткамі. Тая змушаная была вярнуцца, нешта пракрэкала, што на вуцінай мове магло значыць: дай вуткам паесьці! Вуцяк даў папасьвіцца, але да паўдня, ня болей. У паўдзён ён там жа, пад аб-

# Казкі для дарослых

*Прыпавесьці Васіля Быкава ў ацэнках сучасьнікаў*

ныя выпрабаваньні герояў — гэта абавязковы элемэнт. Ён выкарыстоўвае прыпавесьці, каб паказаць на ўнівэрсальным матар'яле пэрыпэтыі свайго часу, нашага нацыянальнага лёсу, каб дасягнуць пэўных палітычна-ідэалягічных мэтаў праз пасярэдніцтва літаратуры. Перад намі паўстае адчуваньне рэальнага абсурду цяперашняга жыцьця, прычым вядома, што Быкаў ніколі не вызначаўся аптымістычнымі поглядамі на цывілізацыю ўвогуле. Прыпавесьць дазваляе яму дасягнуць гранічнай абагуленасьці высноваў. Перад намі калізіі, якія могуць дастасоўвацца да розных сытуацыяў, часоў, народаў. Адначасова чалавек прачытвае іх, выходзячы з таго, што жыве ў ім у канкрэтны момант. Прыклады таму: Д'ябал у «Хутаранцах» ці Пацук у «Хвастатым», якіх беларус прытарноўвае да сваіх умоваў. Прыпавесьць робіцца празрыстай, яскравай.

Зварот да алегарычнай формы — знак сталасьці аўтара, згадайма Коласа зь ягонымі «Казкамі жыцьця». Тое самае Быкаў, які нібы ўзьняўся па сходках рэалістычнай літаратуры, і апошнімі гадамі мы назіраем яго спробу падагульніць сваё творчае развіцьцё. Быкаў высьпеў да тыповасьці вобразаў. Гэта фактычна той матар'ял, які выклікае нас на сутворчасьць, надае нам падставаў для духоўнага і творчага разьвіцьця. І тут нельга не парадавацца проста за беларускую літаратуру, якая зьведвае спробу аднаго з найлепшых пісьменьнікаў узвысіцца да абагульненьняў і напісаць такія ўнівэрсальныя рэчы.

## Гэта вельмі беларускія творы

**Адам Глёбус**, *літаратар:*

Для мяне апошнія прыпавесьці Быкава — гэта сама цікавае, што ёсьць ў ягонай творчасьці, таму што ваенная проза, усё, што зьвязана з вайной, ідзе супраць маіх перакананьняў, маіх ідэалаў. Таму Быкава я чытаў зь цяжкасьцю, чытаў мала, а вот зараз я яго чытаю з задавальненьнем. Нават «Сьцяна» для мяне — твор рацыянальны, а прыпавесьці — ірацыянальныя. І гэта мне падабаецца, таму што яны разьлічаныя на чытача, у першую чаргу, беларускага. Аўтар ня думае, што пра твор скажуць немцы, кітайцы, што скажуць у Маскве, ці выдадуць, ці будзе ён перакладзены на расейскую мову. Гэта напісана для нас, мне гэта вельмі імпануе.

Па-другое, тут зварот да формы антыўтопіі, казкі. Яна вельмі беларуская, у ёй выкарыстана шмат фальклёрных формаў. Я б не называў іх біблейскімі. У іх ёсьць біблейская падкладка, напрыклад, у «Пахаджанах» прысутнічае Майсей. Але Майсей вывеў людзей, а тут кола замкнулася. Значыць, біблейская схема не працуе, працуе чыста наша: «А хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе?», купалаўская схема працуе, тэма вандроўнікаў, вечнага руху. Таму тут выкарыстаныя наш фальклёр і наша клясыка. Тут няма аглядкі на Камю, Рэмарка, Бакланава. Можа, таму кажуць, што пісьменьніку трэба некуды ад'ехацца, убачыць здалёк сваю Радзіму, і тады ты яе ўбачыш больш яскрава. Як пісаў Гогаль, седзячы ў Рыме, што я вось толькі тут, у кавярні «Грэка» магу ўбачыць Расею зь яе праблемамі. Ён меў рацыю.

Калі мы пачыналі рабіць «Нашу Ніву», мы ніколі ня думалі, што ў нас будуць пісаць клясыкі нашай літаратуры, таму што гэта была маладая контракультура. А цяпер нармальна, што Быкаў менавіта ў «Нашай Ніве» гэта друкуе.

Чаму яшчэ мне гэтыя прыпавесьці падабаюцца — яны напісаныя не дзеля грошай, ня дзеля кар'еры, яны напісаныя дзеля нас. Большасьць чытачоў Быкава раней былі не беларускімі чытачамі, а расейскамоўнымі. Быкава ведалі як аўтара «Нового мира», выдавецтва «Художественная литература» больш, чым выдавецтва «Мастацкая літаратура». А мяне заўсёды цікавілі творы, якія цяжка перакласьці на іншыя мовы, як напрыклад, цяжка перакладаць Разанава. Я не зьдзіўлюся, калі Быкаў напіша кніжку для беларускіх дзяцей, чытанку, як пісаў Колас. А зь літаратурных пареляў да прыпавесьцяў Быкава магу згадаць антыўтапічную навэлу Акутагавы «Востраў» ды Сьвіфта.

## Палітыка для малых дзетак

**Ірына**, *студэнтка БДУ, 22 гады:*

Папраўдзе кажучы, мяне вельмі моцна зьдзівілі гэтыя самыя прыпавесьці. Я не чытала ў «Народнай Волі», але тое, што друкавалася ў «Нашай Ніве», аніяк не стасуецца з маім колішнім уяўленьнем пра Быкава як пісьменьніка. У прыпавесьцях Быкаў — грамадзкі дзяяч, палітык. І гэтай палітыкі ў іх уяўна зашмат, палітыкі ўтраванай, палітыкі для малых дзетак. Ёсьць пэўнае падабенства да антыўтопіяў, але клясычныя антыўтопіі разумеюць людзі з розных краінаў і розных культураў, а ці зразумее сэнс быкаўскіх прыпавесьцяў чалавек, не знаёмы зь беларускай сытуацыяй? Няма напружанасьці і трагізму, а фінал гэтых твораў перадчуваецца ад самага пачатку. Мне асабіста было цяжкавата чытаць іх, мо таму, што Быкаў пісаў гэта для нейкай іншай часткі сваіх чытачоў. Цікава, для якой?

Аднак, нягледзячы на маю суб'ектыўную ацэнку, можна ўпэўнена сьцьвердзіць, што прыпавесьці Быкава зоймуць сваё пачэснае месца сярод твораў найноўшай беларускай літаратуры. Альбо публіцыстыкі?

## Народны філёзаф

**Вадзім Карцаў**, *«Малады Фронт»:*

На фоне ўсеагульнага ўсхваленьня творчасьці Быкава ў мяне зьяўляецца жаданьне паарыгінальнічаць і пакрытыкаваць гэтага аўтара. Найперш хачу сказаць пра тое, што не зусім пасуе друкаваць у «Нашай Ніве» ягоныя творы, бо яны выпадаюць з агульнага нашаніўскага аптымізму і рамантызму. У быкаўскіх творах больш праглядаецца чорная безвыходнасьць, хоць гэта суб'ектыўны погляд. Па-другое, мяне, як эстэта і маладога чалавека, Быкаў не прываблівае як аўтар, якога можна чытаць кожны дзень. А па-трэцяе, новы стыль, які абрала «Наша Ніва» — гэта адыход ад мастацтва і абстракцыі да рэальнасьці, таму Быкаў тут абсалютна не падыходзіць. Чытач прыпавесьцяў Быкава — саракагадовы і болей чалавек, з роздумам, не абцяжараным сэксуальным успрыняцьцем сьвету, чалавек, які ўжо прайшоў усе стадыі перажываньняў полавага кшталту, чорны філёзаф, пэсыміст. Можна сказаць, з пакаленьня сямідзясятых. І Быкаў ня зьменіць свае творчасьці, ён застанецца такім.

Ёсьць вялікі інтарэс да Быкава як да зоркі. Яго будуць чытаць, не зважаючы на тое, што ён напіша, таму што ўжо ёсьць імя, імідж. У нашага народа здаўна ёсьць прага мець нейкага аўтарытэта, старэйшыну, якога можна лічыць народным філёзафам.

**Запісаў Анатоль Прасаловіч**



*Малюнак Сяргея Харэўскага.*

рывам, крыламі і гукам даў зразумець статку, што трэба канчаць сілкавацца, пара ў вырай. Яны на возеры апынуліся ці не апошнія. Як бы не спазьніліся.

Яго, аднак, кепска слухаліся, некаторыя ўсё спрабавалі ныраць, нібы баючыся страціць апошнія, здатныя да таго хвіліны. І вуцяк сьцяміў, што марныя яго захады, тым болей што і вуціха неўзабаве далучылася да неслухаў. Адна толькі меншанькая вутачка Шарэчка гайдалася каля вуціха-бацькі, здаецца, маўкліва падзяляючы ягоны клопат.

Вуткі яўна ня мелі ахвоты нікуды ляцець, ім няблага стала і тут.

Вуцяк ня ведаў, што зь імі рабіць, як растлумачыць, што то — небясьпечна. Калі яны спозьняцца, у паднябесьсі іх можа захапіць непагадзь, а то й сьнег, яны загінуць, не даляцеўшы да цёплага выраю. А то яшчэ ўдарыць мароз, і возера замерзьне. Тады яны застануцца бяз корму і прападуць таксама. Свой клопат ён з абурэньнем, гучна крэкаючы і хлопаючы па вадзе крыльлем, давёў статку, як той урэшце наеўся, і вуткі перасталі ныраць. Ды яму ня надта паверылі. Сапраўды, дагэтуль жа было не сьцюдзёна, даволі зацішна ў гэтай прыхаванай за пагоркам затоцы. А галоўнае — нагрэтая за лета вазёрная вада здавалася цяплейшаю за паветра, зь яе не хацелася вылазіць. Ды вуцяк ведаў, што так будзе нядоўга, што возера ўрэшце замерзьне. А лёд — пагібель для вуцінага племя. Ды на ўсе вуцяка захады вуткі не адгукаліся, ня верачы яму. Вуціха-маці коратка і выразна павяла крылом — у адзін бок, затым у другі, што значыла: можа, замерзьне, а можа, і не. Затое тут корм.

Так, тут быў корм, які ўжо праклінаў вуцяк, бо той корм зьявіўся дужа не ўпару, — ня там і не тады, калі быў патрэбны. Цяпер тая нечаканая сытасьць пагражала згубіць вутак. Як і іхная згаладнелая сквапнасьць. Вуткі за некалькі дзён прыкметна пацяжэлі і з заўжды туга набітым вальлём выглядалі няўклюдамі. З такім вальлём вельмі проста было нават не ўзьляцець у паветра, а ня толькі адолець даўгі і турботны шлях у цёплыя краі. Але што мог вуцяк?

Ён мог бы ляцець адзін або з Шарэчкай, якая пакуль што слухалася яго. Але ён не хацеў кінуць астатніх, гэтых пражэрлівых, сквапных дурніц, якія не хацелі разумець, што іх чакае. Вуцяк так затрывожыўся, што сам перастаў ныраць у мутную ваду, адно кружыў у затоцы ды ляскаў па вадзе крыльлем, тым выказваючы свой клопат і гнеў. Ды, здаецца, на вуцяка ўжо перасталі зьвяртаць увагу.

Аднойчы ўранку ён згледзеў, як стравянелы пагорак зводдаль нібыта пакрыўся плесьняю — то браўся першы перадзімовы іней; у паветры надта марозіла. Але вада ў затоцы па-ранейшаму была цёплая, спрэс над ёю курэла лёгкая, празрыстая пара, у якой асабліва жвава пачуваліся вуткі. Вуцяк тады зрабіў ці не апошнюю спробу вывесьці іх на возера і ўзьняць на паветра. Але неўзабаве сьцяміў, што ніводная зь іх ужо не падніметца — так усе ацяжэлі ад празьмернай сытасьці. І ўсё ня кідаюць ныраць — наядацца. Кожнага дня пад вечар туга набівалі абвіслыя вальлі. Корму ля трубы ня менела.

Вуцяк быў ужо не малады векам, аж тры восені запар лётаў у вырай і кожную вясну вяртаўся на сваё возера. І ён ня мог не разумець, чым скончыцца вуцінае непаслушэнства. Ён толькі ня ведаў, як сам павінны паставіцца да таго. Але і ратавацца самому таксама ўжо рабілася позна. Тады ён меў апошнюю размову з вуціхай-маці, якая адна магла яму паспрыяць. Ды не схацела. Мабыць, як заўжды, не хапіла яе вуцінага розуму.

Між тым на берагі лёг першы лёгкі зазімак. Пагорак забяліўся пад сьнегам, нават стаў прыгажэйшы, чым быў дагэтуль. А затока ўсё дымелася пад цёплай духмянай парай. У ёй надзвычай порстка і ўвішна пачуваліся вуткі. Аднойчы ўранку вуціха-маці так і сказала вуцяку: дарма турбуесься: тут будзе ня горш, чым у выраі. Тут — цывілізацыя, труба пракорміць. А мароз? — запярэчыў вуцяк. А марозу, можа, і ня будзе, адказала вутка. Не было ж яго ўлетку...

Вуцяк разумеў, што яна памыляецца, але ня ўмеў як пераканаць яе ў тым. Асабліва, калі яе падтрымалі астатнія вуткі. Нават яго ўлюбёная Шарэчка і тая апошнім часам надта ацяжэла і болей трымалася на вадзе каля маці. Вуцяк усё болей заставаўся ў адзіноце і парой пачынаў сумнявацца ў сваёй праўдзе. А можа і насамрэч марозу ня будзе? Не бывае ж яго на поўдні, куды лятуць птушкі ў вырай.

Але то — на поўдні. Тут жа была калі й ня поўнач, дык нешта блізкае да яе. Чакаць чагось ладнага, мабыць, тут было марна. Ды вуткі, як і людзі, мелі патрэбу заўжды спадзявацца на лепшае. А што лепшае — падманная рэч, вуткі таго не разумелі.

Неяк уначы стала дужа сьцюдзёна, азяблыя вуткі ледзьве дачакаліся раньня. І тады ўбачылі, што бераг у трысьнягу ўзяўся прыгожым тонкім лядком. Некаторыя нават паспрабавалі яго дзюбкамі, на смак ён падабаўся і хутка таяў. Каб выплыць у затоку, яго лёгка праламвалі вальлямі і лапкамі і так дапяліся да кармнай трубы. Але назад статак ужо не пасьпеў — трысьнёг за дзень спрэс паўмярзаў у лёд. Вуціха-маці тады ўскарабкалася на ледзяны закраек і валюхаста пашкандыбала пешшу. За ёй гэтаксама няўклюдна пабрылі вуткі, — ім карцела начаваць там, дзе прывыклі. Вуцяк туды не пайшоў і застаўся на вольнай вадзе ў затоцы.

Але і затока вузела. Мароз паволі і настойліва пашыраў на возеры свае ледзяныя абшары. Праз колькі дзён у затоцы застаўся невялічкі лапічак чыстай вады ўздоўж берагу. Там увесь дзень і сноўдалі вуткі. Праўда, ня ўсе. Іншыя вылазілі на лёд і панылa сядзелі, нібы чагось чакаючы. Сярод іх быў вуцяк. Ён ужо нікуды іх ня клікаў — не было куды клікаць. Ён толькі маўкліва дакараў сябе, што не намогся ў свой час змусіць іх падняцца ў вырай. Але як было адарваць згаладнелы статак ад багатага корму? Цяпер навошта корм?

Начавалі цяпер у цеснай палонцы, і неяк уранку згледзелі, што коміны, якія вытыркаліся ўдалечы з-за засьнежанага пагорку, перасталі дыміць. Тое вутак ня надта спалохала. Спалохаліся яны, калі адчулі ў вадзе, што з бэтоннай трубы не цячэ нічога. Вуткі ня ведалі, што гэта збанкрутаваў завод, і труба перастала дзеяць. Як і ўсё астатняе на заводзе. А вузкая палонка тым часам усё вузела. Пакуль лёд аканчальна не самкнуўся зь берагамі.

...Як зноў настала вясна і стомленыя статкі гусей, жураваў ды вутак пачалі вяртацца з далёкга выраю, яны ў азёрнай затоцы не знайшлі нікога.

Толькі рэшта мокрых стракатых пёраў дзе-нідзе гайдалася ў трысьнягу і ля берагу. То было ўсё, што засталося ад сытага бясьпечнага вуцінага статку. ■

# САБАЧЫЯ ГІСТОРЫІ

Віктар ШНІП

Аднаму сабаку прапанавалі ўступіць у камсамол. Сабака пагадзіўся. І прывёў сабаку Граждан у камсамол. Там яму выдзерлі іклы, падрэзалі вушы і хвост, а на ілбе намалявалі зорку. Калі прыём у камсамол закончыўся, сабака пацікавіўся: «А есьці ў камсамоле даюць?»

Адзін сабака надумаў жаніцца. Пайшоў у ЗАГС і кажа: «Хачу жаніцца!» А яму ў адказ: «Мы Гражданоў ня можам пераважаніць, а тут нейкія сабакі лезуць. Вон адсюль!» Нежанаты сабака пакрыўдзіўся і спаліў ЗАГС.

Адзін сабака гуляў па Менску. Убачыў танк. І захацелася сабаку стаць танкістам. Пачаў падскокваць ля танку, каб залезьці ў жалязяку. Убачыў гэта Граждан: «А я думаў, што вайна даўно закончылася», — і дастаў з шырокіх штанін гранату.

Аднаго сабаку адправілі ў космас. Ляціць ён у ракеце, смокча костку. А тут аднекуль зьявіўся Граждан на памяле: «Ты чаго, сабака, сядзіш у гэтай трубе?» «Пасадзілі і сяджу», — з гонарам адказаў сабака. «Ну, сядзі далей,» — сказаў Граждан і паляцеў.

Адзін сабака трапіў у Парыж. Ідзе па горадзе, дзівіцца — усё не па-сабачаму. Зайшоў у прыбіральню. А там — Граждан.

Адзін сабака бачыў разумнага Граждана. Цяпер сабаку даюць есьці раз на дзень і раз на тыдзень водзяць на вуліцу.

Аднаго сабаку так надрэсіравалі, што ён стаў выконваць усе загады, пастановы, дэкрэты. Яму кажуць: «Сядзець!» І ён сядзіць. Яму кажаць: «Ляжаць!» І ён ляжыць. Яму кажуць: «Шукай!» І ён шукае. Яму кажуць: «Пішы вершы!» І ён піша.

Аднаго сабаку Гражданы прыгаварылі да расстрэлу. Паставілі да сьцяны, а сабака разьдзёр на сабе чырвоную кашулю і закрычаў: «Страляйце гадаў, усіх не перастраляеце!»

Адзін сабака служыў у войску. І даслужыўся да яфрэйтара. А Граждана — камісавалі.

Адзін сабака сабраў усіх сабак і сказаў: «Калі хочаце наесьціся, хадзіце за мной». І павёў усіх у пустыню. Хадзілі пяць гадоў. Назад вярнуўся толькі Граждан.

Адзін сабака прыехаў у Маскву. Выйшаў зь цягніка на вакзале і запытаўся ў Граждана: «А што гэта за горад?» А Граждан яму ў адказ: «Варшава».

Адзін сабака ўцёк у Амэрыку. Сустрэў амэрыканца і спытаўся: «А ў вас Гражданы ёсьць?»

Ішоў адзін сабака бязногі. Убачыў яго Граждан і пацікавіўся: «Чаму гэта ты бязногі ідзеш?» «Бо ногі адсеклі...»

Адзін сабака трапіў на экскурсію на «Аўрору». Ходзіць, разглядае. А тут Граждан: «Вы камісар гэтага браняносца?» Сабака не разгубіўся: «Я!» «Вам тэлеграма са Смольнага!»

Аднаго сабаку паклалі ў Маўзалей. Ляжаў ціха семдзесят гадоў, сем месяцаў і сем дзён. Магчыма, ляжаў бы так і далей, калі б не зайшоў Граждан. Сабака ўнюхаў Граждана і закрычаў: «Рускім духам пахне!» — і ўзяў устаў. А Граждан лёг.

Адзін сабака знайшоў гранату. А Граждан — ракету. І трэцяя сусьветная вайна разбудзіла Герцэна.

У аднаго сабакі былі рукі. Вялікія, як ногі ў Граждана. Граждану гэта не спадабалася, і ён забараніў сабакам мець рукі.

Адзін сабака даў у газэце «Двое» аб'яву: «Шукаю Граждана для сумеснай гаспадаркі. Куру. П'ю. Гавару па-расейску. Сабакам не турбавацца».

Адзін сабака знайшоў грошы. Купіў білет у кінатэатар. Зайшоў у залю, а там — Гражданы.



Наша Ніва 90 гадоў таму

## Арышт грамадоўцаў

*29 кастрычніка 1909 году*

**Менск.** Судзебная палата разглядала справу трох чалавек, іх вінавацілі ў належнасьці да Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

Судзілі: бібліятэкара гарадзкой бібліятэкі Віктара Зелязея, яго памочніцу Маршак і Зыгмунта Зелязея. Разам з арыштам Зелязеяў быў пароблены вобыск, і часова была закрыта Пушкінская бібліятэка. У кватэры Зелезеяў у часе вобыску знайшлі пячатку з надпісам: «Беларуская Сацыялістычная Грамада», кніжкі і праклямацыі, выданыя Грамадой, і ліставаньне з рознымі асобамі. У літаратуры Грамады праводзіліся глаўным чынам погляды нацыянальна-палітычныя і эканамічныя, а таксама падымалася нацыянальная сьвядомасьць беларусаў, вымагалася паляпшэньня зямельных стасункаў прымусовай перадачай зямлі народу, пабольшаньня заработнай платы сялянам і вытварэньне асобнага сейму для Беларусі ў Вільні.

Палата прызнала 2 падсудных вінаватымі ў належнасьці да Беларускай Сацыялістычнай Грамады і засудзіла Віктора Зелязея ў ссылку на пасяленьне і Зыгмунта Зелязея на 1 год у крэпасьць, а Маршак апраўдала.

*(«С.-З. Гол.»)*

## прыватныя абвесткі

**Набуду 1—3 тамы** выданьня «Беларуская энцыкляпэдыя». Т.: 249-57-55; 214-87-39

**Студэнт шукае** сужыцеля, каб разам здымаць кватэру ля мэтро, б/з тэл. Тэл. суседкі: 230-85-88. Уладзік

**Куплю** кнігу «Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці». Тэл.: 262-67-02

**Žadaju** Źviazacca z Haradzienskim Sojmam VKL. Pakińcie kaardynaty. 224002; Žukava 7-43, Bieraście, t. 26-98-52

**Ангельская** мова: рэпэтытарства, пераклады, кантрольныя работы. Менск, вул. Курчатава, 8, тэл. 222-95-26

**Хлопцам** вельмі патрабуюцца беларускія песьні з акордамі. Будзем вельмі ўдзячныя! 222120, г. Барысаў, а/с 541

**Сходныя** зь сеткамі, што вяжа павук, усе законы! Шэршань выходзіць лёгка, бедная муха ў палоне. Ян Ліцыні

**Фэн-клюб** этна-рок-гурта «Камэлот» прымае заяўкі на атрыманьне другога альбому. Ад Вас капэрта са зв/а

**Студэнтка** пэдагагічнага ўнівэрсытэту прапануе паслугі па дaглядзе і выхаваньні дзіцяці. Пажадана ў сям'і сьвядомых беларусаў. 213-23-21, Ілона

**Беларусь** — гэта сьвятое. Не давайце сьвятыні псам!!! Снайпэр

**Прапануем** в/а працу ў хаце (250 у.а.). Гэта Вы можаце! Укладзіце 2 капэрты са зв/а + купон б/а: Менск-89, а/я 122

**Прадаю** жаночы паўкажушок з францускага футра, новы, памер 46, колер карычневы, 200 у.а. Тэл. (0232) 53-89-17

**Шукаю** кантактаў з тымі, хто жадае далучыцца да сапраўднага змаганьня за Беларусь. 220024, а/с 264, Яравіту

**Помні**, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе! Кастусь Каліноўскі

**Выбарцам**. Людзі, каторыя наперад ведаюць адказы на ўсе пытаньні, павінны знаходзіцца па-за парлямэнтам. У.Чэрчыль

**Прапануем** в/а працу з інфармацыяй у хаце (150 у.е.) Гарантыя. Ад Вас — капэрта са зв/а. 213828, Магілёўская вобл., Бабруйск, а/с 22

**Прапануем** в/а працу ў хаце (250 у.а.). Даступна ўсім! Укладзіце 2 капэрты са зв/а+купон б/а. Менск-89, а/с 122

*Дарагі Алесь,*
*віншую цябе з днём народзінаў.*
*Зычу ўсіх даброт, сьветлага каханьня.*
*Любая табою Натальля («ЛОСЯ»)*

**Газэта прымае таксама абвесткі большым шрыфтам за невялікую плату**
*— да 20 словаў — 50 000 руб., звыш 20 словаў — 70 000 руб.;*
*— па-мастацку аформеная аб'ява – 20 000 руб. за 1 кв. см;*
*— па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад 40 000 руб. за 1 кв. см.*
*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку блянка паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*





КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________

Адрас, тэлефон ______________________________

## паштовая скрынка

**Алене В.** зь Ліпнякоў. *Самае цяжкае — лістапад і сьнежань, а там ужо дзень пачне патроху большаць, сонейка будзе прабівацца. Моманты хараства, кропкі хараства складаюцца ў каралеўства хараства, якому няма межаў. Зерне, кінутае ў глебу, усходзіць і красуе.*

**Андрэю Б.** з Гомеля. *А чаму б Вам самому не закласьці беларускамоўны геаграфічны часопіс? Пра Дыбоўскага:*

*Вінкевіч Г.А. Выдающийся географ и путешественник, Менск, 1965.*

*Грицкевич В.П. Путешествия наших земляков. Менск, 1978.*

*Карніловіч Э.А. Бенядзікт Іванавіч Дыбоўскі. Весьці АН. Сэрыя біялягічных навук, 1983.*

*Trepka A. Benedykt Dybowski. Katowice, 1979.*

**Раісе Ж.-Г.** з Бэры. *Ці не маглі б Вы даслаць яшчэ фота спн.Стаўбунік і яе родных?*

**Сьвятлане П.** з Бабруйску. *Ён сядзіць там, баіцца й нічога ня робіць. Ён адарваўся ад рэальнасьці. Ён пачаў думаць, што Беларусь — гэта ён. Ён ужо ня той чалавек, якога мы ведалі ў Менску.*

**Аляксандру І.** зь Берасьця. *«Русінская культура» не загіне, калі будзеце пра яе пісаць. Радыя, што вы падтрымліваеце нас у думцы, што «чачэнскія хлопцы змагаюцца ня толькі за сваю волю, але й за незалежнасьць Беларусі». Пра гэта пісалі і будзем пісаць. Не дастанецца маскоўскай мафіі ні Чачэнія, ні Беларусь, бо наша праўда, а іхная — няпраўда.*


«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адказны сакратар Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Набор Насты Дзядзенкі. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.
Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.





Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3045. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 4:27, 18.10.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 5334. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.